


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

7 ЖНІЎНЯ 1998 Г. № 32/3960 КОШТ 4 000 РУБ.












# Лета, Шапэн...

Сталічнае канцэртнае жыццё ўлетку быццам заціхае. У філармоніі — адпачынак перад чарговым сезонам... Але ж Мінск без музыкі хіба пражыве? Нашы меламаны асабліва рады спатканню з ёю ў такую вось часіну летняга зацішку. Не дзіўна, што нядаўняя сустрэча з музыкай у Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі сабрала аншлаг!

"Шчаслівы народ, які мае такога творцу", — казаў, адкрываючы музычную вечарыну, заслужаны артыст Беларусі Віктар Скорабагатаў. Ён, мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання "Беларуская Капэла", быў і ўдзельнікам, і адным з арганізатараў канцэртнай праграмы "Фрыдэрык Шапэн", зладкаванай чыннікамі "БК" ды Польскім інстытутам.

"Шчаслівы народ, які мае творцаў, спрычыненых да сусветна ўшанаванага генія Шапэна", — міжволі, нібы ў працяг, падумалася. Бо як жа тут не згадаць, што з імем і з музыкай славутага польскага рамантыка звязаны імёны славутых сыноў Беларусі Адама Міцкевіча, Напалеона Орды?..

"Шчаслівы народ, які мае музыкаў, здатных улучыць хрэстаматыйнага Шапэна ў кола нашых духоўных сучаснікаў", — пераконвала шчырая творчая атмасфера канцэрта.

Вядучыя беларускія выканаўцы гралі "вечна тыя і вечна новыя" До мінорны накцюрн, Ля мінорную мазурку, Скерца N 2, папулярныя эцюды, паланезы... А яшчэ ў той вечар Шапэнаву музыку спявалі. Для большасці слухачоў прадстаўленыя шэсць яго вакальных твораў сталіся адкрыццём. Сярод іх "Жаданне" (вясковая песня) на словы С. Вітвіцкага,

*(Працяг на стар. 2)*

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***У сталіцы адсвяткавалі другую гадавіну адкрыцця помніка беларускім "афганцам". Адзначана падзея была з дзяржаўным размахам — мітынг на "выспе слёзаў", ганаровая варта, фестываль салдацкай песні, паказальныя выступленні спецназа. Афіцыйныя СМІ паведамілі, што "помнік воінам-інтэрнацыяналістам стаў вечным сімвалам памяці і гонару беларускім юнакам, што загінулі ў далёкім Афганістане, выконваючы ваенны абавязак". Ці даўно афганскую вайну Савецкага Саюза па аналогіі з В'етнамскай вайною ЗША называлі "бруднай". А, бач ты, зноў ахвяраў таталітарнага рэжыму трактуюць як нацыянальных герояў, умяшальніцтва ва ўнутраныя справы суверэннай краіны называюць "воінскім абавязкам", смерць за імперскія інтарэсы — "гонарам"...***

### ГАНАРАВАННЕ ТЫДНЯ

Своеасаблівы прагноз на "жнівень Ігара Лучанка", змешчаны ў мінулым нашым нумары, пацвярджаецца: пачатак месяца прынёс кампазітару-юбіляру шчодры ўмалот. Яго заслугі перад Беларуссю, перад нацыянальнай музычнай культурай, актыўная творчая і грамадская дзейнасць атрымалі высокую дзяржаўную адзнаку: указам прэзідэнта краіны Ігар Лучанок узнагароджаны ордэнам Францішка Скарыны.

### РЭКАНСТРУКЦЫЯ ТЫДНЯ

Пачалася рэканструкцыя помніка Савецка-польскай баявой садружнасці ў мястэчку Леніна, што на Магілёўшчыне. На тым месцы 12 кастрычніка 1943 дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі прыняла баявы хрост. Помнік будзе дапоўнены бетоннаю стэлаю з гранітнымі пліткамі, на якіх будуць імёны загінуўшых і тых, хто знік без вестак, памёр ад ран. Надпісы — на польскай мове (мабыць, варта было б дубліраваць на беларускай — усё ж такі тут не Польшча). Акрамя таго, цяпер побач з сімваламі Савецкай Арміі і Войска Польскага — пяцікутнай зоркай і белым арлом, будуць і каталіцкі і праваслаўны крыжы і сімвал іудзейскай рэлігіі — Менора (сямісвечнік).

### ЛІЧБА ТЫДНЯ

Па ацэнках экспертаў, рэальная колькасць хворых на наркаманію ў Беларусі складае каля 40 тысяч чалавек.

### СВЯТКАВАННЕ ТЫДНЯ

2 жніўня, у нядзелю, былыя салдаты-дэсантнікі святкавалі Дзень паветрана-дэсантных войскаў. На жаль, гэтае святкаванне прыняло форму масавай п'янкі. Міліцыі ў гэты дзень на вуліцах Мінска было шмат, але міліцыянты нібыта не бачылі таго, што выраблялі нецвярозыя дэсантнікі. Ніхто не першакодзіў іх "несанкцыянаванаму шэсцю" з крыкамі і лаянкай па праспекце Скарыны ад парку Чэлюскінцаў да цэнтра горада. Зрэшты, зразумела. Чапляцца да дэсантніка небяспечна. Гэта не апазіцыянераў затрымліваць...

### ПАХОД ТЫДНЯ

У Магілёве ў мінулую суботу распачаўся міжнародны паход "За бяз'ядзерную Беларусь". Ягоная мэта — праінфармаваць людзей, што ў хуткім часе яны могуць стаць закладнікамі атамнага лобі Беларусі і Расіі. Ёсць звесткі, што Расія гатова выдаць беларускаму ўраду крэдыт на будаўніцтва АЭС. Паход будзе праходзіць па Быхаўскім і Шклоўскім раёнах, бо верагодна, што будаваць АЭС збіраюцца менавіта ў гэтых мясцінах. Пазней такі ж паход адбудзецца ў Віцебскай вобласці.

Арганізатары акцыі — экалагічныя групы з Беларусі, Украіны, Польшчы.

### ШКАДАВАННЕ ТЫДНЯ

Па словах дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Уладзіміра Пракапцова, вярнуць музейныя калекцыі, страчаныя ў часе Другой сусветнай вайны, практычна немагчыма. Страчаны юрыдычныя сведчанні, якія б пацвярджалі сапраўднасць твораў і правы ўласнасці на іх. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны 20 тысяч твораў мастацтва, што знаходзіліся ў музеі, былі ўпакаваны і падрыхтаваны да вывазу, але для іх не знайшлося транспарту... У пасляваенны час мастацтвазнаўцы музея не дапускаліся да міжнародных аўкцыёнаў, ды і сёння не маюць выхаду да міжнароднай інфармацыйнай сеткі Інтэрнет. Мы не ведаем, што прадаецца і купляецца на сусветных мастацкіх таргах.

### ПАРАДОКС ТЫДНЯ

Урад Расіі разглядае пытанне аб закупцы вугалю для Сахалінскай ГРЭС у Аўстраліі і Кітаі. Так будзе танней, чым скарыстоўваць той вугаль, што дабываецца на самім Сахаліне. Расійскім шахцёрам застаецца толькі "класціся на рэйкі"... Мо і нам танней купляць нафту ў Саудаўскай Аравіі?

### КОД ТЫДНЯ

Беларусь мае яшчэ адну адзнаку незалежнасці — уласны штрых-код. Раней наша краіна, як і іншыя краіны СНД, карысталася расійскім штрых-кодам, які пачынаўся на 46. Цяпер беларускія тавары будуць ахоўвацца ад падробкі кодам, першыя лічбы якога — 481. Першае прадпрыемства, якое маркіруе сваю прадукцыю беларускім штрых-кодам, — Барысаўскі завод медычных прэпаратаў.

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

5 жніўня споўнілася 80 год з таго дня, як Сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі зацвердзіў бел-чырвона-белы сцяг у якасці беларускай дзяржаўнай сімволікі.

### "АРОЛ" ТЫДНЯ

Не з пустымі рукамі вярнуўся з Ніцы генеральны дырэктар Радашкавіцкага акцыянернага таварыства "Беларуская мастацкая кераміка" Мікалай Кладаў — арганізатар міжнароднай праграмы "Партнёрства дзеля прагрэсу" ўзнагародзіў нашае прадпрыемства прызам "Залаты арол". Узнагарода — заслужаная. Прадукцыя "Беларускай мастацкай керамікі" карыстаецца вялікай папулярнасцю не толькі на Радзіме (У Радашкавічах выраблялася амаль палова ўсіх беларускіх керамічных вырабаў), а і ў Расіі, а таксама ў Германіі, Чэхіі і нават у Саудаўскай Аравіі. За першае паўгоддзе сёлетняга года тут выпушчана тавараў народнага ўжытку амаль на 80 мільярдаў рублёў.

# Паміж прэзідэнтам і пісьменнікамі адбыўся канструктыўны дыялог





***Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка і члены творчага Саюза беларускіх пісьменнікаў да сур'ёзнай і грунтоўнай размовы рыхтаваліся амаль чатыры гады. 5 жніўня гэта размова адбылася ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы.***

На яе былі запрошаны кіраўнікі ведамстваў, міністры, прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта. Па словах Аляксандра Лукашэнкі, у сустрэчы ўзялі ўдзел усе тыя, ад каго залежыць вырашэнне праблем майстроў мастацкага слова. А ім заставалася толькі пазнаёміць прысутных з тым, што хвалюе беларускіх пісьменнікаў.

Галоўным прадметам гаворкі стала беларуская мова. Пісьменнікі, сярод якіх былі такія вядомыя майстры слова, як Уладзімір Някляеў, Іван Шамякін, Генадзь Бураўкін, Раіса Баравікова, Вольга Іпатава, Генрых Далідовіч, Уладзімір Гніламёдаў, гаварылі аб неабходнасці ўзняць статус беларускай мовы ў грамадстве, выказвалі незадавальненне абыякавасцю чыноўнікаў розных рангаў да гэтай праблемы. Гучалі прапановы аб прыняцці Прэзідэнтам адпаведнага дэкрэта, які заканадаўча замацоўваў бы важнасць беларускай мовы як адной з дзяржаўных. Хацелася б дзеячам літаратуры і часцей чуць беларускае слова з вуснаў першых асоб краіны, што таксама садзейнічала б росту прэстыжу нацыянальнай мовы.

Акрамя таго, у сваіх выступленнях пісьменнікі не абышлі ўвагай праблемы, звязаныя з выданнем і распаўсюджаннем кніг на беларускай мове, выказаўшы перакананне, што людзі ў глыбінцы не маюць магчымасці набыць той ці іншы твор любімага аўтара, бо тыражы амаль цалкам застаюцца ў сталічных магазінах. Гаворка ішла і пра стан нацыянальнай культуры, праблемы захавання гісторыка-культурнай спадчыны.

У выступленнях майстроў слова прагучала і негатыўная рэакцыя на дзеянні ўладаў вакол Дома літаратара. Як вядома, Саюз пісьменнікаў цяпер не валодае гэтым будынкам, што перайшоў ва ўласнасць дзяржавы.

Аляксандр Лукашэнка з вялікай павагай выказаўся аб творчасці вядомых майстроў слова, у тым ліку і тых, хто не падзяляе курс кіраўніка дзяржавы. Разам з тым Прэзідэнт адзначыў, што кіраўніцтва краіны гатова дапамагаць пісьменнікам, аднак хацелася б бачыць і з іх боку паважлівае стаўленне да праводзімай дзяржаўнай палітыкі. Галоўным крытэрыем для яе ацэнкі павінна служыць думка народа, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Народ жа ў большасці сваёй падтрымлівае палітыку кіраўніцтва краіны, пра што сведчаць і дадзеныя апошніх сацыялагічных апытанняў.

Кіраўнік дзяржавы запэўніў пісьменнікаў, што заўсёды гатовы зрабіць усё магчымае для вырашэння іх праблем. Такое ж стаўленне ў кіраўніцтва краіны і да прадстаўнікоў іншых сфер культуры.

Прычым за апошнія чатыры гады з боку дзяржавы для падтрымкі таленавітых людзей зроблена больш, чым у іншыя часы.

Прыкладам таму могуць служыць і створаныя з гэтай мэтай фонды, і арганізацыя шматлікіх творчых музычных, тэатральных і кінафестываляў.

Аляксандр Лукашэнка акрэсліў літаратарам праблемы, што стаяць перад дзяржавай у цяперашні час, адзначыўшы, што без стабільнай і дакладна дзеючай эканамічнай палітыкі незалежнасць і суверэнітэт краіны сцвердзіць немагчыма. На яго думку, калі пісьменнікі сваім праніклівым словам будуць спрыяць умацаванню незалежнай Беларусі, кіраўнік дзяржавы толькі скажа ім дзякуй. Аднак творчым людзям варта выкарыстоўваць сваё залатое пяро ў стварэнні высокіх па духу твораў, а не ў палітыканстве і ўслаўленні апазіцыі.

Дзяржава гатова дапамагаць талентам і надалей. Але, на думку Прэзідэнта, гэта павінна выглядаць не рознымі падачкамі, а як дастойная ўзнагарода за натхнёную працу. Прэзідэнт краіны выказаў спадзяванне, што такія сустрэчы з літаратарамі стануць добрай традыцыяй.

**Вольга ШЧАДРЫНА**

*На здымках: у час сустрэчы.*
*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА (БЕЛТА)*

## З ВЫСТУПЛЕННЯ СТАРШЫНІ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ УЛАДЗІМІРА НЯКЛЯЕВА

...Які ў нас наперадзе лёс — гэта якраз тое пытанне, якое зараз вырашаецца, і на якое мы павінны чуць, бачыць, павінны мець больш-менш дакладны адказ.

Для мастака, які арганічна пачувае сябе, працуючы ў аўры нацыянальнай культуры, ніякі актуальны адказ пра далейшы наш лёс не мае ніякага зместу без адказу пра лёс нацыянальнай мовы, ідэі, свядомасці, цалкам беларушчыны. Можна колькі заўгодна разважаць пра перавагі адной мовы над другой, нечай культуры над іншай, але па-за тэкстам роднай мовы, па-за тэкстам айчыннай культуры нацыянальны мастак пазбаўляецца сваёй сутнасці. Змірыцца з гэтым ён не тое што можа ці не можа, хоча ці не хоча, а проста не здольны. Менавіта з адчування магчымай страты сваёй сутнасці, сэнсу свайго існавання і вынікае непрыманне нацыянальнай інтэлігенцыяй дзіровак беларускага на Беларусі, скіраваных да таго ж на змяншэнне. Сітуацыйна гэта прыкладна тое самае, што з басейна паступова выпускаць ваду, пакінуўшы там плыўца і сказаўшы яму: а ў крайнім выпадку ты бегай па дарожках... Пабегчы ён, можа, і пабяжыць, бо куды падзецца, але будзе ўспамінаць і ўспамінаць ваду, і чакаць сусветнага патопу...

Што мы ўсё-ткі, Аляксандр Рыгоравіч, у краіне нашай збіраемся рабіць: пачынаць будаваць Беларусь у Беларусі, ці нечага чакаць? Калі чакаць, дык ніхто нікому не кажа, а таму ніхто не ведае, колькі і чаго? Калі будаваць, дык на якім падмурку, каб будынак не абрынуўся, і ўсе нашы намаганні не пайшлі пылам? Што нам ствараць: сацыяльную, грамадзянскую дзяржаву? — у гэты час, калі ў многіх грамадзян, якія дзяржаву гэтую складаюць, не заўсёды хапае сродкаў для існавання. У такіх умовах усе гаворкі пра наднацыянальную дзяржаўную ўладкаванасць — гэта ці няўцямныя для людзей гукі эфіру, ці факультатыўныя фантазіі выпускнікоў былых палітычных акадэмій. Зразумела, што ў цяперашняй сітуацыі, найперш пры тых, што склаліся, палітыка-эканамічных стасунках з Расіяй, нам не надта выпадае, як Піліпу з канапель, які сядзеў там так ціха, нібыта яго няма, раптам закрычаць на ўвесь свет: "Мы ёсць, мы тут, мы нацыя, мы народ, беларусы!" — але праўдзенне ва ўнутранай дзяржаўнай палітыцы мяккай нацыянальнай ідэі чым нам можа эканамічна пашкодзіць?.. Маё асабістае перакананне, што наперадзе ў нас нацыянальная ідэя не мае сур'ёзнай альтэрнатывы.

# Лета, Шапэн...

(Працяг. Пачатак на стар. 1)

"Меланхолія" на словы Б. Залескага... І сюрпрыз — "Прэч з воч маіх" на верш А. Міцкевіча, перастораны па-беларуску Я. Міклашэўскім.

Лета вечаровымі промнямі зазірала ў залу праз расчыненыя на тэрасу дзверы; чарадзейныя гукі поўнілі атмасферу "шапэнаўскага салона" і мкнулі на вольнае паветра, у сціплы садок: рыхтык падчас знаных імпрэзаў у радзінным доме кампазітара, у Жалязовай Волі!.. А стваральнікі гэтай атмасферы купаліся ў хвалях воплескаў: піяністы — лаўрэаты міжнародных конкурсаў Уладзімір Дулаў, Юры Бліноў, Іосіф Сяргей, спевакі Таццяна Цыбульская, Віктар Скарабагатаў, канцэртмайстар Ганна Каржанеўская. І толькі самы строгі крытык мог заўважыць, што найбольш стыльнымі ды натхнёнымі выканаўцамі былі ў тым канцэрце В. Скарабагатаў ды І. Сяргей.

"Шчаслівы народ, які мае такіх слухачоў", — парадавалася я, далучыўшыся да прыхільнікаў і знаўцаў музыкі Шапэна, якіх аказалася досыць багата ў летнім вечаровым горадзе.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: Таццяна ЦЫБУЛЬСКАЯ, Юры БЛІНОЎ, Уладзімір ДУЛАЎ.*
*Фота К. ДРОБАВА*

ДРУК

# Шлях ад... "дадаізму" да "заставы"

А прайсці яго можна, пазнаёміўшыся з чарговым, шостым томам "Беларускай энцыклапедыі" ў 18-ці тамах, які толькі што пабачыў свет, — у яго і ўвайшлі артыкулы ў прамежку гэтых слоў. Што такое "застава" — больш-менш ведаюць многія, а вось "дадаізм", відаць, патрабуе тлумачэння. Гэта — мадэрнісцкая літаратурна-мастацкая плынь у Заходняй Еўропе ў 1916—1922 гадах, якая ўзнікла ў Цюрыху ў асяродку нігілістычна настроенай інтэлігенцыі, што ўспрыняла першую сусветную вайну як праяўленне ў чалавеку спаконвечных звярыных інстынктаў. Паводле прыхільнікаў дадаізму, розум, мараль, эстэтыка не што іншае, як толькі маскіроўка іх. Пазней, у 1920-ыя гады дадаізм у Францыі зліўся з сюррэалізмам, а ў Германіі — з экспрэсіянізмам.

Усяго ж у томе — не адна тысяча артыкулаў, а колькасць ілюстрацый можна назваць дакладна, бо яны падлічаны стваральнікамі "БелЭна" — 1068, з іх, дарэчы, 249 партрэты, 42 карты. Ілюстрацыйны матэрыял у асноўным каляровы (чым, безумоўна, гэтая энцыклапедыя адрозніваецца ад сваёй папярэдніцы ў 12-ці тамах, дзе каляровыя ілюстрацыі змяшчаліся толькі на ўклейках).

Аднак, як вядома, энцыклапедыя — найперш выданне даведачнага кшталту. І ў гэтым сэнсе "БелЭн" знойдзе свайго ўдзячнага чытача сярод розных катэгорыій насельніцтва: тут пад адной вокладкай — інфармацыя па самых розных аспектах. "БелЭн" — даведнік універсальнага характару, у ім можна атрымаць вычарпальныя звесткі, што тычацца грамадска-палітычнага жыцця, дзяржаўных стасункаў, геаграфічнага становішча, згадваюцца знакамітыя дзеячы літаратуры, мастацтва, культуры і ўвогуле слынныя людзі. І хоць значную частку займаюць артыкулы, якія тычацца не толькі Беларусі, усё ж беларускі матэрыял, як і задумвалася, дамінуе. Гэта тычыцца і літаратурна-культурных абсягаў.

Разгарнуўшы том, можна, для прыкладу, пазнаёміцца з артыкуламі-персаналіямі Леаніда Дайнекі, Генрыха Далідовіча, Святланы Данілюк, Уладзіміра Дамашэвіча, Вольгі Дзёмкінай, Леаніда Дранько-Майсюка, Аляксея Дударава, Язэпа Драздовіча, Валянціна Елізар'ева, Алеся Жука, Васіля Жуковіча, Сяргея Законнікава і іншых. Разгорнутымі атрымаліся артыкулы "Дзіцячае кіно", "Дзіцячая літаратура", "Дзіцячая музыка" і іншыя. Не абыдзены ўвагай і творцы, якія вымушаны былі апынуцца за мяжой ці тыя, у якіх быў складаны лёс. Аўтары публікацый у энцыклапедыі аб'ектыўна расказваюць пра Уладзіміра Дудзіцкага, Кастуся Езавітава, Міхася Забэйду-Суміцкага і іншых. І, канечне ж, праз смугу гадоў паўстаюць постаці Ігната Дамейкі, Яна Дамеля, Язэпа Драздовіча, Ефрасінні Полацкай...

Адным словам, бярыце шосты том "БелЭн" і ў... падарожжа.

**А. АН-ЕВІЧ**

ВАРУНКІ

# Не кіем, дык палкай

Не здолеўшы пазбавіць Беларускі гуманітарны ліцэй уласнага будынка, аб'яднаць яго з ліцэем пры БДУ, чыноўнікі ад адукацыі вырашылі... надаць ліцэю статус нацыянальнага. Савет Міністраў тут жа выдаў адпаведную пастанову, чым вельмі здзівіў шматлікіх назіральнікаў. Чаму ж тады ў Мінгарвыканкам пададзена заяўка на аднаўленне пікетавання, і 17 жніўня навучэнцы чарговы раз выйдуць на вуліцу з плакатамі? Новая хваля пратэсту ліцэістаў звязана з відавочным жаданнем пэўных колаў разбурыць існуючую ў адзінай беларускамоўнай установе сістэму навучання. Зрабіць гэта шляхам змянення выкладчыцкага калектыву.

На мінулым тыдні дырэктар БГЛ У. Колас быў выкліканы ў Міністэрства адукацыі, дзе яму быў прадстаўлены кандыдат на яго месца — прафесар М. Плескацэвіч. Апошнія гады названая асоба займае пасаду прарэктара Мінскага педуніверсітэта, мае перадпенсійны ўзрост. Як высветлілася падчас пазнейшай сустрэчы М. Плескацэвіча з бацькамі ліцэістаў, Мікалай Міронавіч амаль нічога не ведае пра унікальнасць навучальнай установы, але ўжо плануе правядзенне ў ёй рэформ. Так, выкладчыкам давядзецца цяпер праходзіць пераатэстацыю і заключаць кантракты. Функцыі атэстацыйнай камісіі будуць выконваць выкладчыкі педуніверсітэта. Няма ніякіх гарантый, што ў лік выкладчыкаў патрапяць увесь сённяшні калектыў ліцэя. Той жа У. Колас прайшоў пераатэстацыю ў снежні 97-га і быў зацверджаны на пасаду дырэктара тэрмінам на 5 год. Тое самае — з намеснікам дырэктара Л. Баршчэўскім. Зараз усе вынікі іспытаў паўгадавой даўніны ў разлік не бяруцца, хоць ніхто і не выказвае ніякіх заўваг наконт іх прафесійных якасцяў. Гэта дае падставы разглядаць задоўжаны скандал вакол ліцэя як выключна палітычны. Як паведаміў бацькам намеснік міністра адукацыі Г. Дылян, кандыдатуру У. Коласа на дырэктарскую пасаду калегія Міністэрства адукацыі нават не разглядала. Новапрызначаны дырэктар даў зразумець, што перамены чакаюць і навучэнцаў. Ільготы для ліцэістаў, якіх пасля заканчэння гэтай установы будуць прымаць без іспытаў на любы гуманітарны факультэт любой ВНУ, могуць прывесці да таго, што ў ліцэй патрапяць дзеці тых бацькоў, "якіх трэба". А праз год-другі можна будзе прапанаваць такім бацькам і іхнім дзецям пісаць заявы аб пераходзе на рускамоўнае навучанне.

Фактычнае звальненне дырэктара — толькі першы крок у справе ліквідацыі унікальнай навучальнай установы. Ліцэісты і іх бацькі збіраюцца адстойваць кандыдатуру сп. Коласа. "Чалавек, які ствары гэты ліцэй, павінен ім кіраваць", — аднагалосна вырашылі яны разам з выкладчыкамі. З гэтым яны наважваюцца звярнуцца да прэзідэнта, кіраўніка ўрада, у міжнародныя арганізацыі і судовыя органы. У суд з прычыны юрыдычнай беспадстаўнасці звальнення Коласа (не было заявы "па асабістым жаданні" ці папярэджання за два месяцы), парушэння цэлага шэрагу артыкулаў Кодэкса аб працы. Калі гэтыя захады не прынясуць плёну, ліцэісты 1 верасня пачнуць забастоўку.

**Вадзім ДОЎНАР**

ВІНШУЕМ!

# Гран-пры атрымаў на Сіцыліі

З Юзікам Сяргеем нашы чытачы пазнаёміліся пяць гадоў таму, калі ён, вучань Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, зазнаў поспех на Міжнародным конкурсе піяністаў імя Артура Рубінштэйна ў Польшчы і стаў яго лаўрэатам. З часам ён сцвердзіў сябе як сур'ёзны і перспектыўны музыкант, чый міжнародны поспех набывае стабільнасць. Здавалася, не так даўно віншавалі яго са званнем лаўрэата Першага міжнароднага конкурсу "Фартэпіяна. Мінск-96". А гэтае лета прынесла новыя лаўры маладому выканаўцу. Студэнт Беларускай акадэміі музыкі Іосіф Сяргей выйграў спаборніцтва піяністаў, якое праходзіла на Сіцыліі і сабрала дзве сотні выканаўцаў з усяго свету. Міжнароднае журы ганаравала Беларускага музыканта Гран-пры.

"Галоўны прыз гэтага конкурсу, — сказаў Іосіф Сяргей, — не мае грашовага эквіваленту, у якасці ўзнагароды пераможца атрымлівае магчымасць выступіць з прэстыжнымі канцэртамі — у Італіі, у Амерыцы..."

**С. Б.**

ШЛЯХІ

# Канферэнцыя ў Беластоку

Пры канцы ліпеня ў Беластоку (Польшча) адбылася III міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Культура і адукацыя беларускага замежжа". Яе ладзілі Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Беларускі саюз у Польшчы, Беларускае гістарычнае таварыства ў Польшчы, літаратурнае аб'яднанне "Белавежа". Першыя дзве канферэнцыі прайшлі ў Мінску — у 1994 і 1996 гг. Менавіта на апошняй і было вырашана наступную правесці ў Беластоку, дзе пражывае значная колькасць этнічных беларусаў, якія стварылі адметную культуру.

Канферэнцыя распачалася пасяджэннем "круглага стала" па тэме "Беларусы Беласточчыны ў дыяспары". Асноўныя пленарныя пасяджэнні прайшлі ў актавай зале Беластоцкага універсітэта. Прынялі ўдзел прыкладна паўтары сотні чалавек з розных краін — Польшчы, Беларусі, Летувы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Расіі, ЗША, Аўстраліі. З прывітальнымі словамі да ўдзельнікаў канферэнцыі выступілі міністр культуры Польшчы сп. Іаанна Унук-Назарова, віцэ-ваявода Беластоцкага краю Ёзэф Пётр Клім, былы польскі пасол у Беларусі Эльжбета Смулэк. Прысутнічалі прадстаўнікі беларускай амбасады ў Польшчы ды консульства ў Беластоку, аднак слова не бралі. Ад дзяржаўных структур Беларусі больш нікога не было, хаця запрашаўся Камітэт па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў.

На канферэнцыі абмяркоўваліся навуковыя і практычныя аспекты развіцця культуры ў замежных беларускіх асяродках. Удзельнікі прынялі рэзалюцыю аб неабходнасці адкрыцця Цэнтра беларускай культуры ў Беластоку.

Шырокаю была культурная праграма канферэнцыі. Удзельнікі наведалі заключны канцэрт фестывалю беларускай рок-музыкі, што ладзіцца штогод у Гарадку. Адбылася цікавая вандроўка па Беласточчыне на аўтобусе. Госці наведалі святую гару Грабарку — месца паломніцтва праваслаўных беларусаў. Пабывалі ў Гайнаўцы, дзе месціцца Беларускі музей, азнаёміліся з гісторыяй яго будаўніцтва і дзейнасці. Агледзелі знакамітую царкву святой Тройцы, дзе штогод праходзяць міжнародныя фестывалі духоўнай музыкі, якія арганізуе беларус Мікола Бушко — дырэктар мясцовага Дома культуры.

Канферэнцыя прайшла на добрым навуковым узроўні і дала магчымасць сустрэцца беларусам замежжа.

**Ганна СУРМАЧ**

АБСЯГІ

*ВІЦЕБСК...*

## Крутой паехаў з "Базара..." задаволены

Прадзюсер і старшыня журы конкурсу маладых выканаўцаў на міжнародным фестывалі мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" Ігар Крутой застаўся задаволены яго вынікамі. На прэс-канферэнцыі, якую ладзіла для журналістаў дырэкцыя фестывалю, народны артыст Расіі сказаў, што напярэдадні "Славянскага базару..." ён быў у роспачы, бо не любіць прымаць удзел у камерцыйных інтрыгах. Аднак высокі ўзровень і творчая атмасфера фестывалю далі падставы сцвярджаць, што ён гатовы і ў наступным годзе падтрымаць "Славянскі базар у Віцебску". На пытанне, якую выгаду мае яго фірма "АРС", Крутой адказаў, што пакуль не мае ні капейкі. Але фірма "АРС", зразумела ж, не "Чырвоны Крыж"... Спачатку трэба, каб дырэкцыя фестывалю размежылася з членамі журы і ўдзельнікамі канцэртаў.

Адносна бліжэйшых планаў кампазітар сказаў, што першы тыдзень жніўня праўдзе ў Маскве, дзе ён павінен запісаць новыя песні з Ірынай Алегравай і Валерыем Лявонцьевым. А потым — у адпачынак, які яны з жонкай вырашылі правесці ў Францыі.

## Кірмашовыя сувеніры

Каля двухсот народных умельцаў прынялі ўдзел у імправізаваным "Горадзе майстроў" на свяце Віцебска. Выдатныя ганчары, керамісты, вязальшчыцы, мастакі са сваімі непаўторнымі вырабамі арганізавалі самастойны кірмаш на "Славянскім базары". Чаго тут толькі не было! Габелены з Пастаў, саламяныя капелюшы з Браслава, гліняныя пеўнікі з Лепеля, чарнадымны посуд з Наваполацка, берасцяныя лапцікі з Карэліі, прыродныя ўпрыгожванні для жанчын з Вялікага Ноўгарада, каргапольскія цацкі з Архангельскай вобласці.

Прыехалі ў Віцебск народныя майстры з Гомеля, Магілёва, Мінска. Мастачка па саломцы з Брэста Галіна Шацкая прапанавала аўтарскія работы, а Марыя Стома з Калінкавіцкага раёна — даматканыя ручнікі-ўціральнікі, ручнікі-набожнікі, якія ўдастоены спецыяльнага рэспубліканскага медаля. Віцебскі мастак Уладзімір Вальной прызнаўся, што такі кірмаш — сапраўднае свята душы, бо народнае мастацтва мае сапраўды глыбокія карані.

## Археолагі на былой Прыдзвінскай

Завяршаюцца археалагічныя раскопкі ў зоне новага будаўніцтва на гістарычнай вуліцы Талстога ў Віцебску. Як адзначыла старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Вольга Ляўко, выяўлены рэшткі забудоў ад XI—XII да XVII стагоддзя. Знойдзены рэшткі чоўнаў, паплаўкі, драўляны посуд, бронзавы бранзалет. У адным доме XII стагоддзя адшукана вялікая колькасць шкляных бранзалетаў. Верагодна, у ім жыў ювелір альбо купец. Дзякуючы намаганням вучоных, старажытная віцебская вуліца, якая называлася раней Прыдзвінскай, можа мець свой сапраўдны гістарычны воблік. Фінансуе раскоп вядомая фірма "Марко".

**Святлана ГУК**

*БРЭСТ...*

## Пленэры на радзіме Н. Орды

Некалькі гадоў назад на Брэстчыне быў утвораны грамадскі фонд Напалеона Орды. Арганізацыя праводзіць немалую навукова-асветніцкую работу ў асэнсаванні жыццёвага і творчага шляху вядомага мастака і кампазітара XIX стагоддзя, прымае захады для адкрыцця музея-сядзібы ў вёсцы Варацэвічы Іванаўскага раёна — на яго радзіме. Фонду належыць таксама ініцыятыва правядзення штогадовых пленэраў на Палессі.

Сёлета адбыўся ўжо трэці пленэр з удзелам Генадзя Сурмы, Міхася Кебеца, Язэпа Крупскага і іншых мастакоў-берасцейцаў. На гэты раз яны працавалі ў Опалі і яго ваколіцах, іхняй працы спрыяў тутэйшы калгас. З цягам часу на радзіме Напалеона Орды мае адкрыцца карцінная галерэя. Ужо створана добрая аснова для гэтага.

## Кніжку выдаў... часопіс

Супрацоўнік раённай газеты "Івацэвіцкі веснік" Віктар Рэчыц вядомы чытачам не толькі як журналіст. Шмат гадоў ён (нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Альшаны на Пружаншчыне) піша байкі, гумарыстычныя і сатырычныя вершы, друкаваў іх у "Чырвонай змене", "ЛіМе", "Вожыку" і іншых перыядычных выданнях. Нядаўна ж пабачыла свет яго́ная кніжка гумару і сатыры "Залаты тавар". Арганізацыйную і фінансавую дапамогу аўтару аказаў часопіс свабоднай эканамічнай зоны "БугСЭЗБрэст", галоўны рэдактар якога Анатоль Разановіч стаў і рэдактарам кніжкі. Чакаецца, што добры пачатак часопіса ў падтрымцы літаратараў-землякоў будзе мець працяг.

## Святы на Палессі

Нягледзячы на гарачы перыяд жніва, жыхары вёсак і мястэчак Брэстчыны знаходзяць час для цікавага адпачынку. Зразумела, у выхадныя дні. Традыцыйна сустрэліся на беларуска-ўкраінскім памежжы ветэраны вайны з Іванаўскага і Любяшоўскага раёнаў, а з імі і моладзь, каб пачуць іхнія ўспаміны, разам паспяваць песні. А ў Целяханах адбылося свята народнага танца, у якім, акрамя мастачкоўцаў, прынялі ўдзел харэаграфічныя гурты з навакольных вёсак Аброва, Амяльная, Святая Воля дый іншых. У вёсцы ж Стаўкі Бярозаўскага раёна прайшло сваё свята, якое так і называлася — "Свята вёскі". Паяднала яно і песні, і танцы, і паказ вырабаў народных майстроў, і дасціпныя гульні...

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬ...*

## На палотнах — старажытная прыгажосць

У Будакашалёўскім раёне спрадвеку былі вялікія дубровы. З мясцовых дубоў будавалі караблі Пётр I. У гады Вялікай Айчыннай каштоўную драўніну вывозілі фашысцкія акупанты ў Германію. Але дубровы, нягледзячы ні на што, радуюць вока і па сённяшні. Вядомыя гомельскія мастакі Уладзімір Кароткі і Станіслаў Дзьяканаў днямі наведалі гэтыя дзівосныя мясціны. У выніку творчай камандзіроўкі з'явіўся шэраг жывапісных палотнаў, якія ўслаўляюць прыгажосць гэтых маляўнічых мясцін.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

# Па дарозе ў "Навінкі"

ПРА АЛКАГОЛЬНУЮ ЗАЛЕЖНАСЦЬ У НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

*А ў нас жыццё, як вожык у тумане,*
*Адно, што можам —*
*піць віно няслаба...*
В. ШНІП

## На пляшку не дасі?

МАНАЛОГ СЯРЭДНЕСТАТЫСТЫЧНАГА БЕЛАРУСА З СЯРЭДНЕСТАТЫСТЫЧНАЙ ВЁСКІ

Значыцца, так. Слухай сюды... Калі пра гарэлку, дык ты правільна трапіў. У мае, значыць, рукі. Хоць і дрыжаць яны. Разумееш, безумоўна, — панядзелак сёння, рот запацелы, калатун усеагульны. Пахмелле, словам... На пляшку не дасі? Ну, добра, пазней дык пазней. Слухай... Як жа не піць?! Праца ў мяне, не дай табе Божа, — трактарыст калгасны. Дзесяцігодку ў свой час сяктак агораў (ужо тады піць спрабаваў), на курсах механізатарскіх у райцэнтры падвучыўся, потым у войску — на танку, пасля — на трактары ў калгасе. Нічога надзвычайнага, карацей. Катарга з золку да прыцемкаў. Вось гэта стратэгія, вось гэта тактыка! А ўсё разам, так думаю, палітыка мудрая. Да чалавека-рабацягі звернутая. Каб не хваляваўся ён за дурное, не перажываў па дробязях. За такую палітыку я гарой. Паспрабуй толькі пальцам яе кранi... Ды не палохайся... А пра пляшку, глядзі, не забывай!

Ты толькі на хвілінку ўяві, што будзе, калі спіртное знікне. Гэта ж гарадская адзінокая бабулька сантэхніка так і не дачакаецца, а вясковая — так без дроў і перазімуе. Жах! Антынароднае нешта! Паўлітэрка паўнаважкая — самая што ні ёсць канвертуемая валюта ў нас. Хоць і вадкая, але якая цвёрдая ў непахіснасці. Глядзі... Няма такіх прэміяльных і звышурочных, якімі механізатара ў свята ці ў выхадны на сенажаць зацягнеш. Няма! Асабіста я ўпокат у завулку валяцца буду, не падымуся, няхай спатыкаюцца. А кіне старшыня кліч: "Хлопцы, трэба! Памужчынску кампенсую!" — сцяной падымемся, як адзін — і на палетак. Бо ведаем: пад вечар будзе! І скрыня гарэлкі, і скрыня віна. Прама вось тут, на калгаснай сенажаці. А Асабліва зараз, летам. Касавіца, бульбу апрацоўваць трэба, жніво ідзе. Ворыва зноўтакі на носе. Куды ім без мяне? Рукі хоць і дрыжаць, але ж — на вагу золата. Дзе іншых узяць? Усе мы тут радыяцыяй ды калгасам да нуля давedзеныя. За нейкіх пару мільёнаў так за дзень наламаешся, што карак ад ярэмца хлебаробскага аж трашчыць пад вечар. Ну дык куды мне гэтую стому? Не, на мехдвары пакой псіхалагічнай разгрузкі ёсць — да нейкага семінара тэрмінова абсталявалі. Інжынер кажа: заходзьце пасля працы, разгружайцеся. Знайшоў дурняў! Пасля працы ў нашай вёсцы, наадварот, "загружаюцца" ўсе. Ці ж апрытомнееш ад гэткай невыноснай будзённасці без гарэлкі ці віна?! Вось кожны з нас і цягнецца дахаты з пляшкай, закалымленай мімаходзь. Уласным мазалём ды трактарам калгасным. Сена каму прывязеш, дровы, ці гарод узарэш. Ды і ў час калгаснай працы "падагрэцца" магчымасць заўсёдная ёсць. Глядзіш, дома жонка ўжо гатовенькага сустракае, ушчэнт "перазагружанага". Яшчэ грам дзвесце наверх і вось ён — доўгачаканы хлебаробскі сон, без думак чорных і клопатаў. А на золку — усё спачатку. Па прынцыпе: "Выпіваем адзін раз, а ўсё жыццё потым апахмяляемся"...

Кажаш, вось так усёй вёскай і співаемся? Зайздросціш, мабыць? Не? Ну дык няпраўда твая. Не вёскай — дзяржавай! Колькі іх, гарадскіх, ад станка пасля змены не ў тэатр з музеем, не ў жончыны цёплыя абдымкі трапляюць, а ў выцвярэзнік, не менш для душы нашай родны. Талерантнасць беларуская (не хлушу — чытаў) не толькі сціпласцю ды забітасцю нашай вызначаецца, але яшчэ і колькасцю ўжытых віна-гарэлачных літраў. Словам, калегі вакол. І ў вёсках, і ў гарадах. Таварышы... Па горы ці шчасці, пытаеш? Зноў зайздросціш? Дзівак! Па пошуках жыццёвай радасці. Калі не ў рэальнасці (няхай бы трасца на яе!), дык на донцы чаркі. Каўтнеш перад працай — і быццам сэнс у ёй з'яўляецца. І хлеб гэты, што морам вакол жытнёвым, не для дзядзі росцім ды ўбіраем. І да бульбачкі пасаджанай — як да маці роднай. Наша ж усё вакол, не суседскае! А працверазееш у абед, кінеш вокам наўкола: дык не ж, браточкі! І збажына ў валоках гніе, і бульба, у свой час у зямлю абы-як кінутая, толькі каларадскага жука і радуе. Зноў за чаркай цягнешся. Глынеш — і зноў жыццё наладжваецца. Сям'ю ўспамінаеш: і жонка ўжо нібыта прыгожая ды руплівая, і дзеці, здаецца, разумныя і добрыя. Пасля школы ў горад наладзіліся. Мабыць, і піць столькі, як я, не будуць. Як думаеш?..

Не, не пра тое кажаш! Слухай сюды... А я табе гавару, не! Вучыцель знайшоўся. Маўляў, жыццё трэба мяняць, на іншае арыентавацца, адносіны да працы перагледжваць? Маўляў, на Захадзе не п'юць, жывуць дзеля шчасця сапраўднага? Смяешся з мяне ці як?! Ты што, думаеш, дзяржавай нашай дурні кіруюць?! Глянь, колькі ў крамах віна ды гарэлкі таннай! Думаеш, выпадкова? Яшчэ з год пяць таму пляшку запаветную шукаць трэба было за светам. А зараз? Калі ў нашу краму не завезлі, дык райцэнтр пад бокам. Трактар у хмызнякі, на веласіпед — скок і ля універмага. А там на кожным паверсе — "рэанімацыйны" аддзел. Гарэлкі і віна — па некалькі гатункаў, у любой тары-расфасоўцы. Пра часіны тыя няўдзячныя, калі паліtуру ўжывалі ды шклоачышчальнік "Бляск", забыліся ўжо. Самагонку ў вёсках амаль не гоняць. Навошта цукар пераводзіць, калі наўкола мора прадукту якаснага і таннага? Усё таму, што старшыня палітыку разумее, згодна яе чалавека простага любіць, штодзённыя яго запатрабаванні паважае, ведае, што растуць яны няўхільна... А ты выбрыкваешся тут. Усё незадаволены чымсьці.

Чаму? Згодны! Ёсць сярод нас і вырадкі. У губу, маўляў, не бяру, пра будучыню дзяцей дбаю, уласнымі рукамі яе будую!.. З такім мы бескампрамісна і прынцыпова! Па ўсёй моцы калгаснай дыктатуры. Гады са тры, напрыклад, з'явіўся адзін такі з сям'ёй (з Гомеля, казалі), пасяліўся непадалёк ад вёскі. Пазыку нейкую ўзяў, кавалак зямлі арандаваў, тэхніку прыдбаў. Фермер я, кажа, бульбу буду вырошчваць. Ну-ну, адказваем. А ён смяецца: "Сям'ёй сваёй увесь калгас ваш абганю!" І самае галоўнае — не п'е, сабака! Мы і так, і гэтак — усё роўна не ўжывае. Вырадак, словам. Якая толькі мамка яго нарадзіла?! А праз год рады даць не можам: у нас недарод, а ў фермера бульбы — як у Гапона сліў. Прадаў на нашых вачах без сораму, свіней падкупіў, ферму малочную завёў, братоў на дапамогу з горада паклікаў. А праз час такіх выбрыкаў нарабіў — аслупянелі мы ўсе. Ты не паверыш: катэдж трохпавярховы ўзвёў, сажалку выкапаў, карасёў туды запусціў. Пан дый годзе! На свае, кажа, грошы, уласным потам здабытыя. Ды калі такое было? У калгасе, я ж табе гаварыў ужо, гарбацішся з ранку да вечара, а ў канцы месяца і на гарэлку добрую не хапае. А тут буржуй гэты на шыю нашу! Крывасмок без сораму! Неяк пахмяліліся мы з мужыкамі як след і вырашылі на агульным мужчынскім сходзе: ніякіх эксперыментаў буржуйскіх на нашай зямлі! Ферма ягоная за ноч і згарэла... А фермер за мяжу з'ехаў. Пакрыўдзіўся... Нажыўся на нашым, калгасным, і за кардон, падлюка, радзіме здрадзіўшы...

Ты мне пра тое, што за мяжой амаль у чарку не глядзяць? А я табе вось пра што. Слухай сюды... Пасля Чарнобыля асобныя з нашых у Расію падаліся, ад радыяцыі схавацца. З тэхнікай, на якой у калгасе працавалі (дазвол такі тады быў), з інвентаром прычапным. Паўладкоўваліся ў тамтэйшых калгасах. Але праз месяц-другі ўсе вярнуліся. Разумееш, якая рэч? Расіяне, аказваецца, піць і працаваць адначасова не могуць. Калі запой у мясцовых мужыкоў (ну, скажам, Новы год, стары Новы год, дзень арміі, жаночы дзень, свята пагранічніка — ці мала ў народа свят!), дык на працу дзесьці к абеду выбіраюцца. Бульба пустазеллем зарастае, каровы нядоеныя... Ну не спраўляюцца браткі адначасова і з п'янкай, і з працаднямі сваімі. Мы, беларусы, па мяккасці душэўнай, сумяшчаем з поспехам. А ў іх культуры ўжывання няма. Нічога! Навучым, вопытам падзелімся, разам пойдзем, хто б там ні перашкаджаў. Таму я і за саюз братні. А Захад... Няхай там фермер той няўдалы загнівае, з філасофіяй кулацкай. У нас, славян, адзіная дарога... Чаму ў Навінкі, гад ты печаны, лайдак бязглузды?! Давай грошы на пляшку за размову маю павучальную. Вось... А цяпер каціся адсюль, працаваць не перашкаджай...

## Вожыкі ў тумане

АДЗІН З ПОГЛЯДАЎ НА ПРАБЛЕМУ

Співаемся... Клічнік з пытальнікам не стаўлю. Бессэнсоўна. Эмоцыямі тут не возьмеш. Неабдымнае ці абдымеш? Не патлумачыш усяго нават сабе. І на пытанне, чаму пілі, п'ём і будзем піць, так проста не адкажаш. Нават з дапамогай самых дасведчаных ва ўсіх прыцемках псіхалогіі, сацыялогіі і грамадазнаўства. "Ну ты ж не пытаешся ў надвор'я, чаму яно кепскае, — смяецца сябра, заўзяты знаўца чалавечых душ. — Несумненна, з дапамогай фізікі, метэаралогіі да сутнасці дакапацца можна. Але якая ад гэтага практычная карысць? Хмарку сонейкам у адзін момант штучна не заменіш... Ідзе дождж — бяры парасон. Не хочаш, справа твая, але рэпутацыю падмочыш". Спрачаюся з сябрам. Пераконваю, што параўнанне няўдалае. Нябесныя канцылярыяй, маўляў, Усявышні кіруе, гарэлку, калі хмарна, на зямлю не лье. Займаюцца гэтым у канцылярыях дзяржаўных і, па ўсім відаць, ніяк не па боскіх законах. І парасонаў ад гарэлачных "ападкаў" нідзе не прадаюць, а выратаванне асобы — справа індывідуальная, уласная, амаль што інтымная. "Пра гэта ж і кажу, — не шкадуе кпінаў сябра. — Што Бог, што Прэзідэнт — якая народу розніца..."

Адкідваю эмоцыі, займаюся халоднай канстатацыяй. Якой бы ні была незалежнай дзяржава, амаль кожны яе грамадзянін у пастаяннай залежнасці ад шкодных звычак. Ад ужывання тытуню, алкаголю, наркотыкаў, кавы і нават гарбаты (спецыялісты кажуць, што кафеін з тэінам, што ў гарбаце, па наркатычным уздзеянні і параўнаць нельга). Успомнім яшчэ пра тэлевізар, камп'ютэр, азартныя гульні... Залежнае чалавецтва марудна, але ўпэўнена коціцца ў бездань. Шчыруем у пошуках здаровага сэнсу, як тыя вожыкі ў тумане.

"Ды для поўнай і хуткай дэградацыі асобы хопіць і аднаго алкаголю", — енчаць усё тыя ж спецыялісты-нарколагі. А сябар падбухторвае: "Калі гарэлка з віном прадаецца ў такіх памерах, значыць, гэта камусьці трэба! Адгадай з трох разоў, каму?" Адмахваюся, як ад надакучлівай мухі і еду ў Мінфін. Званю з прахадной, там, дзе пост міліцэйскі, па чыноўніцкіх кабінетах: "Пра п'янства пішу, статыстыкай пераканаўчай дапамажыце, калі можна..." "Малайчына, — жыццярадасна ў адказ, — абавязкова па алкаголіках прайдзіся. Нагадай, што гарэлка ў нас — самы танны прадукт, што недаравальна гэта!" "Вось, вось, — натхняюся я, бо знаходжу ўзаемаразуменне, — пра гэта і пішу. Падкажыце, колькі ж чыстага прыбытку мае рэспубліка штомесяц ад продажу віна і гарэлкі?" — "Ну, даражэнькі, — адзін за адным падхопліваюць эстафету мінфінаўскія работнікі, — ты гэта ўжо цераз край хапіў. Лічба сакрэтная, можна сказаць, стратэгічная. Не, даць можам. Але дазвол адпаведны патрэбны, узгадненняў некалькі па інстанцыях... Хто ж яго ведае, як ты лічбу гэтую ў газеце сваёй падасі. А раптам на шкоду дзяржаве?"

Вяртаюся дахаты. Настойлівы званок па тэлефоне. Падымаю трубку: "Ну што, наіўны, спрычыніўся да дзяржаўнае тайны?" — выводзіць з сябе прадбачлівы і нястомны сябра. Кідаю трубку. Ніякіх эмоцый, толькі халодная канстатацыя! Сяджу на кухні, куру, п'ю каву — адзін з залежных у незалежнай ад усяго дзяржаве. Адным вокам прагледжваю ў "Звяздзе" артыкул пра развіццё вытворчасці на Рэчыцкім гарэлачным заводзе. Дзелавітае нарошчванне магутнасцей. Багаты асартымент віна і гарэлкі. Радасная ўпэўненасць у шырокіх магчымасцях... Дастаткова прыблізна падлічваю, колькі ж мае гандаль ад сутачнай рэалізацыі спіртнога хаця б у нашай "спальнай" Малінаўцы. Мрояцца сумы-пачвары з вялізнымі нулёвымі хвастамі. Успамінаю не да месца ссівелы анекдот: "Муж-алкаголік "выхоўвае" жонку: "На што б ты жыла, калі б не мае бутэлькі?!" З павагай прыслухоўваюся да суседзяў зверху: муж і жонка (прафесійныя алкаголікі з салідным стажам) распачынаюць традыцыйную штовячэрнюю бойку са знішчэннем посуду і высвятленнем адносін.

Як ні падыходзь да праблемы, а стратэгічная лічба аднаго з артыкулаў стабільнага паступлення грошай у дзяржаўную кішэню залежыць зараз і ад іх, маіх суседзяў. З жахам прыходжу да высновы: кінуць яны метадычна піць — усім пагоршае. Голымі хадзіць будзем ды галоднымі. Ноччу сніцца сюррэалістычнае: чарговы дзень незалежнасці, чарговы парад, па прэстыжнай сталічнай плошчы ўслед за стратэгічнымі ракетамі цягнуць на танкавай платформе вялізную (літраў на трыста) пляшку "Крышталю", у паветры, сабраўшыся ў чароды, паважна праплываюць "двухбусельныя" пляшкі паменш. Наш шчыт, наша надзея, наша апора...

Дажджлівым ранкам зноў сяджу на кухні, пішу гэтыя радкі, п'ю каву, пазіраючы ў акно. Двое хісткіх мужыкоў валакуць пад рукі п'яную ўшчэнт адносна маладую кабету. Босыя ногі яе бездапаможна цягнуцца ўслед па лужынах. На тварах мужыкоў засяроджанасць і мэтанакіраванасць. Не бяруся асуджаць. Разумею, яны ўсе працуюць зараз на дзяржаўны дабрабыт, на тую самую "стратэгічную" лічбу, высакародна ахвяруючы дзеля гэтага ўсім: прыстойнасцю, дзецьмі, сумленнем. Толькі вось чаму дабрабыт такі кволы? Разумею ў падсвядомасці і гэта: піць, таварышы, трэба больш!

Суботні дзень пачынаецца. За акном дождж, туман і не вельмі цвярозыя вожыкі...

## Статыстыка трагедыі

ЯШЧЭ АДНА СПРОБА АМАЛЬ ХАЛОДНАЙ КАНСТАТАЦЫІ

Пераглядваю старыя журналісцкія нататнікі. Яшчэ раз успамінаю змардаванага, але ўпартага ў сваіх жыццёвых прынцыпах сярэднестатычнага вясковага беларуса. Што з ім сталася? Ці пераехалі яго дзеці ў горад? Ці шукае ён, як і раней, пляшку на святое ранішняе пахмелле?.. Хтосьці з вялікіх марксістаў не без звыклага цынізму заўважыў калісьці: пагібель аднаго — трагедыя, пагібель тысяч — статыстыка...

Па дадзеных прэс-цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі, сёлета асобамі, якія знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення, здзейснена 58,7 працэнта наўмысных забойстваў, 54,7 працэнта згвалтаванняў і замахаў на іх, 50,3 працэнта — рабаванняў, амаль 41 працэнт наўмысных цяжкіх цялесных пашкоджанняў. За пяць месяцаў года большая частка сур'ёзных злачынстваў па рэспубліцы — на рахунку нецвярозых яе грамадзян. Колькасць такіх злачынстваў у параўнанні з леташнім павялічылася. За ўжыванне алкаголю на вытворчасці затрымана больш за 23 тысячы чалавек, за з'яўленне ў п'яным выглядзе ў грамадскіх месцах і распіццё спіртных напояў там, дзе гэта забаронена, — амаль 300 тысяч, больш за 28 тысяч — за кіраванне транспартам "пад мухай". У лячэбна-працоўныя прафілакторыя накіравана судамі 1220 алкаголікаў. Цытую па міністэрскай даведцы: "...але месцаў у ЛПП недастаткова, так што выканаць рашэнне суда ў поўным аб'ёме не ўяўляецца магчымым". Два ЛПП (Гомельшчына і Гродзеншчына) разлічаны на "перавыхаванне" дзвюх тысяч залежных ад спіртнога — удвая менш ад патрэбнага...

Статыстычная крывая няўхільна паўзе ўверх. Грамадства, адпаведна, няўмольна апускаецца ўніз. Вывад адзіны (хто, цікава, аспрэчыць?): чым горш жывецца, тым бяздумней п'ецца. І высновы накшталт таго, што п'яніца, нібыта праспіцца, а дурань — ніколі, аптымізму штосьці не дадаюць. Бо як ні разважай, а п'яніца — той самы дурань, які днём лучыну паліць, а ўночы ў цянёк хаваецца. Вожык у тумане, словам. Усё да немагчымасці проста: лягчэй трапіць у залежнасць ад вар'яцкага напою (які з такой гатоўнасцю дзяржава і прапаноўвае "страждущим"), чым ад уласнага сумлення. Цвярозы, ды з сумленнем, са сваім непахісным "Я", ён жа (жах які!) у рэшце рэшт і па-людску жыць захоча. Як той фермер са спаленым падворкам. Ды толькі ці хопіць у нашай радзімы-матухны на ўсіх "людскага" жыцця. Вось у парабках і вякуем, не разжываемся, а губляем пастаянна. Фермер гомельскі, уцяміўшы ўсё своечасова, таму і даглядае зараз з любоўю не нашу бульбу, а галандскую. Вось такая, амаль саракаградусная, горкая праўда. І пахмелле ад яе жорсткае: "сіндром няўпэўненасці ў заўтрашнім дні".

## Ці дапамогуць "Навінкі"?

ІНТЭРВ'Ю З НАМЕСНІКАМ ГАЛОЎНАГА ЎРАЧА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ КЛІНІЧНА-ПСІХІЯТРЫЧНАЙ БАЛЬНІЦЫ П. САЛАДУХАМ

— Дык колькі, Павел Іосіфавіч, алкаголікаў на Беларусі? Спадзяюся, не стратэгічная, не засакрэчаная лічба?

— Ды не, безумоўна. На пачатак 97-га было амаль 128 тысяч чалавек. На пачатак 98-га — ужо больш за 130, з іх амаль пяць тысяч — хворыя на алкагольныя псіхозы ("белую гарачку"). Гаворка пакуль пра алкаголікаў, якім пастаўлены адпаведны клінічны дыягназ: хваравітая залежнасць ад спіртнога. Гэтыя, так бы мовіць, сумленне згубілі, сілу волі, самі не выкараскаюцца, лячыць іх сур'ёзна трэба... Але ж штогод на прафілактычным уліку па Беларусі знаходзіцца і каля 40 тысяч бытавых п'яніц (натуральна, патэнцыяльных алкаголікаў). А колькі іх не выяўлена, не пастаўлена пакуль на ўлік?.. Па міжнароднай наркалагічнай статыстыцы, афіцыйную лічбу павялічыць трэба мінімум разоў у дзесяць... Алкаголікаў-падлеткаў узростам да 16 гадоў летась было 45 чалавек. Трыццаць працэнтаў ад агульнай колькасці залежных ад алкаголю — жанчыны...

(Працяг на стар. 12)

## *Вандроўкі па гісторыі і сучаснасці Беларусі*

**Пабачыў свет чарговы — пяты ў гэтым годзе — нумар часопіса "Падарожнік". Заснавальнік і выдавец часопіса вандровак і прыгод — вытворча-камерцыйнае прадпрыемства "Арты-фэкс". Галоўны рэдактар — Леў Казлоў, вядомы гісторык і картограф.**

**Што гэтым разам схавана за вокладкай "Падарожніка"? М. Лашанкоў расказвае пра археалагічную экспедыцыю ("Бабруйшчына старадаўняя"). Цікавасць у чытача, несумненна, выкліча фотарэпартаж А. Сабадаша "Звяр'ё патрабуе жыллё...". Друкуецца і артыкул "Сталецце краязнаўчай працы на Беларусі" Д. Васілеўскага (перадрук з часопіса "Наш край", які выдаваўся ў 1920-я гады). Пад рубрыкай "Беларусь на старажытных картах" друкуецца тапаграфічная карта Беларусі (а дакладней — таго яе куточка, дзе прадстаўлены Мір, Стоўбцы і Гарадзея і іх ваколіцы). Да карты пададзены тлумачэнні па паходжанні, гісторыі населеных пунктаў.**

**Працягваецца публікацыя ўрыўкаў з кнігі Л. Казлова "Паўночная вайна на Беларусі". Змешчаны таксама шэраг іншых цікавых публікацый.**

**Мікола СЛАБОДСКІ**

## *Студыя "Свісцёлкі"*



**Крычаўская дзіцячая студыя "Свісцёлкі" добра вядома ў раённым цэнтры і за яго межамі. Работы юных ганчароў, якія ствараюць дзіўныя па гуку і форме свісцёлкі экспанаваліся на многіх выставах і заўсёды выклікаюць жывую цікавасць гледачоў. Кіруе студыяй Вячаслаў Якавенка (на здымку).**

*Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА*

## *"Полымя", N 6*

**Адкрываецца нумар падборкай новых вершаў В. Зуёнка. Паэзія прадстаўлена таксама імёнамі Л. Галубовіча, В. Шніпа, М. Баравік, З. Цехановіча і ўкраінскага паэта С. Пушыка, якога пераклалі А. Пісьмянкоў і В. Рагаўцоў. Змешчаны пачатак рамана Л. Левановіча "Сіняе лета", кароткія апавяданні В. Ткачова, працяг дзённікаў П. Панчанкі "Думаю, думаю...", апавяданне С. Лема "Сто трыццаць сем секунд", перакладзенае з польскай М. Валошкам. Чытач мае магчымасць перагарнуць старонкі творчай спадчыны Ц. Гартнага (яго апавяданні рэкамендуе ва ўступным слове "Гартны ў Вількаміры" У. Казбярук). З успамінамі "Сон-баравы", "Падзяка", "Адзін выпадак" выступае У. Паўлаў. Творчасць Цёткі ў кантэксце станаўлення беларускай паэзіі разглядае ў артыкуле "Жыве яе ліра нанова" В. Коўтун. Алена Яскевіч ("У чаканні ластавак") напісала штрыхі да творчага партрэта А. Тулупавай. А. Дубасава ("У пошуках свайго") рэцэнзуе кнігу прозы У. Клімовіча "Той, хто будуе горад". Г. Тычка ("Ад славянскіх вытокаў — да XIX стагоддзя") дзеліцца ўражаннямі ад даследавання Г. Тварановіч "Беларуская літаратура: паўднёваславянскі кантэкст". На завяршэнне нумара — пароды У. Марука і А. Зэкава.**

ДОСВЕД

# Прарок з дрэннымі манерамі

СІТУАЦЫЯ постмадэрну прывяла за сабой цэлую чаргу запытанняў, адным з іх стала праблема мастацкай умоўнасці, культываванне так званых "нерэалістычных" сродкаў мастацкага паказу. Творы-мадэлі сустракаем у Васючэнкі, Рублеўскай, Пятровіча, Вераціллы, Мінкіна... Але адным з самых першых (і самых спрэчных таксама) быў і застаецца "Дамавікамерон" Адама Глобуса.

"Да яго "прыліпала" ўсё", — пісаў Сяргей Дубавец у прадмове да іншай кнігі іншага аўтара, але пра Глобуса цяжка сказаць дакладней: ацэньваць лягчэй, чым разумець. І таму - паспрабуем зразумець.

Калі першасная мастацкая ўмоўнасць з прычыны сваёй відавочнасці ("твор не ёсць рэчаіснасць, а яе "адбітак") не выклікае асаблівай увагі, дык другасная цікавіць пасапраўднаму. Згодна семантыцы, "умоўны", па-першае — "дамоўлены загадзя і зразумелы толькі таму, хто дамовіўся"; па-другое — "уяўлены", "неіснуючы", "сімвалічны". У першым выпадку дамоўленымі асобамі выступаюць аўтар і чытач — па сутнасці, ствараючы ўмоўны твор, аўтар вядзе свядомую гульню з чытачом. Эпштэйн выдзяляе дзве канцэпцыі гульні — "game" (гульня па правілах) і "play" — "свабодная гульня, не звязаная ніякімі ўмовамі, правіламі, гульня імправізаваная, ...задача такой гульні — узарваць гэты ўпарадкаваны свет, абвергнуць яго правілы, сцерці ў ім адрозненні і знайсці такое істотнае адзінства, дзе ніхто нікога не абмяжоўвае і ўсё можа быць усім". Такая разнавіднасць гульні адпавядае другому азначэнню ўмоўнага, дзе яно разглядаецца ў якасці ўяўленага-неіснуючага, сімвалічнага. І калі ў адным выпадку гаворка ідзе аб наўмыснай, свядомай і накіраванай творчасці, то ў другім — аб творчасці як аб параджэнні бессвядомай прыроды, што з'яўляецца на свет часам нават насуперак чалавечай свядомасці. Згодна Юнгу, "у першым выпадку варта было б адпаведна чакаць, што твор больш-менш вычэрпваецца межамі свайго замысла і гаворыць нікольکі не больш таго, што было закладзена ў яго аўтарам. У другім выпадку, здаецца, трэба арыентавацца на нешта звышасабістае, якое настолькі ж вылучаецца за межы свядома ўкладзенага ў яго разумення, наколькі аўтарская свядомасць адхілена ад самаразвіцця твора. Тут натуральна чакаць здзіўляючых вобразаў і формаў, выслізгваючай думкі, шматзначнасці мовы, выражэнне якой набывае важкасць сапраўдных сімвалаў, паколькі невядомыя рэчы вызначаюцца найлепшым магчымым спосабам".

Такім чынам "game" ў творы будзе праяўляць сябе праз алегарычнасць, метафарызацыю, "play" — праз сімволіку, прычым пераважна ў рамках міфалагемы.

Калі значэнне сімвала, ужытага ўмоўнасцю "game", хутчэй зводзіцца да значэння ўмоўнага знака, то "play" выкарыстоўвае, бессвядомы сімвал, за якім угадваецца архетыпічны матыў, сімвал пашыранага значэння, якому ўласцівы функцыі тэлеалагічнасці (прадугадванне, пашырэнне тэматыкі) і кампенсаторнасці (прымірэнне і аб'яднанне "ўнутрыпсіхічных апазіцый") (Юнг).

Тэарэтычна тыпы ўмоўнасці размежаваць даволі лёгка, але ў рэальна існуючым творы гэта справа даволі складаная: адзін твор можа ўключаць у сябе і ўмоўнасць-дамоўленасць, і ўмоўнасць-спантаннасць. Дарэчы, псіхааналіз лічыць, што нават свядомая творчасць кіруецца бессвядомымі памкненнямі, з чаго мы можам зрабіць вывад аб тым, што ўмоўнасць-крэатыўнасць (play) у якасці састаўнога кампанента можа ўключаць умоўнасць-дамоўленасць (game). Такім чынам,

"GAME"

Каб гуляць у шахматы, трэба ведаць правілы, і таму нас цікавяць знешнія ўмовы ўзнікнення твора, яго месца ў літаратурным працэсе. Міфатворчасць Глобуса прымушае нас засяродзіцца на неапаганстве ў творчасці маладых аўтараў, прыхільнікаў класічнага неапаганства, літаратурным апанентам якіх з'яўляецца Глобус (меркаваць аб гэтым дае падставы зборнік навел).

"Дамавікамерон" — твор не столькі адасоблены, колькі заканамерны ў сваім з'яўленні. Згодна постмадэрнісцкай эстэтыцы серыйнасці У. Эка, гэта — рымейк, ("перараблене") — разнавіднасць мастацкага паўтарэння, даволі папулярная ў сучасных празаікаў. А ўлічваючы, што аўтар свядома гуляе з чытачом, то твор бачыцца як адказ на пэўнае пытанне, — і калі ставіць яго ў адзін кантэкст з іншымі неапаганскімі творамі, то менавіта так ён і ўспрымаецца.

Неапаганства ў беларускай літаратуры, нягледзячы на свой малады ўзрост, ужо паспела вызначыць у сваёй структуры асобныя тэндэнцыі. Глобус, творы якога можна прылічыць да неапаганства парнаграфічнага накірунку, выглядае як літаратурны апанент Юрыя Гуменюка і Славаміра Адамовіча, якія прадстаўляюць матрыярхальна-гуманістычную тэндэнцыю. Калі Гумянюк і Адамовіч прытрымліваюцца ідэалаў Лоўрэнса ("Мая вялікая рэлігія — вера ў плоць і кроў"), прапануюць "пабудаваць дзяржаву сапраўдных каханкаў" (Гумянюк) і прыгадваюць першаснасць не толькі зместам, але часам і рытмікай (адзін з вершаў Адамовіча запазычвае рытміку "Песні пра Гаявата"), то Глобус робіць гэта вельмі своеасабліва. Здаецца, ён таксама захоплены пошукамі першаснасці, дэ-індывідуальнасці ў сваіх героях — нездарма імёны, якім ён надзяляе сваіх персанажаў, нясуць адценне не толькі міфічных істот паганскага пантэона, але і яшчэ адценне тыповасці, прыналежнасці па пэўным прызнаку. Вычварэнцы Глобуса набываюць сваю першаснасць чыста наміальна, праз імя — Газавік, Дваравік, Асвятляльнік, Сочнік, Ценявік, Гасцявік. Адзінота чалавека звычайнага, здаецца, павінна быць пераадолена праз дачыненне да абагуленага тыпу, абагуленай першароднасці. Але так не адбываецца. Прырода дэсакралізавалася з моманту з'яўлення хрысціянства, з'ява ўжо не нясе ў сабе нумінознасць (прысутнасць Боства), а вобраз не тоесны свайму зместу, як гэта адбываецца ў міфічных і рытуальных культурах (Гігерых). Дарэмна шукаць першаснасць там, дзе яе ўжо даўно няма.

Гэтую выснову быццам падкрэсліваюць вобразы істот (лічы, сучасных неапаганцаў) — умоўныя, ніяк не афарбаваныя, у дачыненні да якіх аўтар выступае ў ролі каментатара, максімальна абязлічанага, які каменціруе такіх жа пазбаўленых эмоцый абагуленых і абязлічаных істот. Прыпомнім таксама спасылкі на глобусаўскі фактаграфізм: сапраўды, зборнік навел нагадвае стос парнаграфічных фотаздымкаў. Відавочна, што ў гэтым плане ніякай глыбіні вобразаў аўтар дасягнуць не меркаваў. Больш таго, здзіўляе не толькі натуралістычная рэзкасць персанажаў, але і іх нейтральнасць адначасова. Нейтральнасць таму, што аўтар не дае намёкаў на іх станоўчасць ці адмоўнасць, дакладна вытрымліваючы этыку міфічнага мыслення. З гэтай прычыны канфлікты навел паўстаюць нам як наборы дзеянняў, якія рухаюць сюжэт, і калі прыводзяць да нейкіх вынікаў, то хутчэй толькі ў плане дзеяння, а не ў плане праблематыкі. Часам здаецца, што канфлікт глобусаўскай навелы ляжыць па-за ёй. Праблематыку ж рухае толькі намінатыўнасць, экзістэнцыя, існаванне вобразаў умоўнага Сусвету. Само існаванне — гэта ўжо ход Глобуса ў процівагу прынцыпам Лоурэнса... На першы погляд здаецца, што персанажы залежаць ад справы, якую робяць, ад прасторы, на якой здзяйсняюць свае існаванне — Шрыфтавік, Газавік, Рабаўнік, Залётнік. Але гэта на першы погляд. Таму што паступова становіцца зразумелым, што істотную ролю ў Глобуса адыгрывае не прастора. Гэтая роля дасталася часу. Менавіта час у навелах з'яўляецца якраз той катэгорыяй, праз якую аўтар дэманструе нам рэчаіснасць. Глобус стварае новую штучную міфалогію, Міфалогію Сучаснасці. Дамавік, Хатнік, Хут і Русалка, зрабіўшы падарожжа ў часе, перасяліліся на старонкі навел.

І, зараз ёсць што?

Патрабаванне Лоўрэнса аб адраджэнні першасных абрадаў і пачуццяў выканана. "Мы павінны адрадзіць абрады... Мы павінны прайсці доўгі шлях назад, зайсці далей ідэалістычных канцэпцый, далей Платона, далей трагічнай ідэі жыцця, каб зноў знайсці глебу пад нагамі... Апошнія тры тысячы год былі адыходам у ідэал, бесцялеснасць і трагедыю, а зараз адыход скончаны..." (Лоўрэнс). Умоўны Сусвет Глобуса і ёсць апошняя кропка гэтага адыходу.

Але ж ці можа быць глебай пад нагамі той змрок, які з'яўляецца фонам да дзеяння міфалагічных істот? Сарказм Глобуса, разбіваючы ўшчэнт пасылку Лоўрэнса, нараджае Антыміф.

Глобус вопытным, эксперыментальным шляхам паказвае няздольнасць Лоўрэнсавай тэорыі неапаганства ў дачыненні да сучаснасці, бо "чыста жывёльнага ўжо не існуе ў прыродзе, яно пераадолена, адухоўлена, і выдзеліць яго можна толькі ўмоўна, абстрагавана... Дэманічны эратызм вядзе не да адраджэння пачуццёвасці, а да вычварэння духоўнасці... Пры гэтым церпіць страту не толькі духоўнасць, супраць якой накіраваны неапаганскі зварот да прыроды, але і тая першаснасць, якой яно імкнецца дасягнуць" (Эпштэйн).

Лічыцца, што Міф ёсць матэрыялізаваны дух чалавецтва. Адам Глобус, трансфармуючы Міф, трансфармуе Дух і паказвае вынік: героі трапляюць не да "сонца, заходу яго і ўсходу" (Лоўрэнс) — іх чакаюць сутарэнні, кватэры ў шматпавярховых дамах, магазіны, пад'езды, ліфты... Дух, трапляючы ў іх царства, перастае быць духам. А Міф становіцца прадуктам хворага інтэлектуалізму.

І ўжо — не Міфам.

Такім чынам, Глобус, прэпарыруючы сваю мадэль, дазваляе нам даведацца, што "наша перажыванне прыроды, наша павага да старажытных каштоўнасцяў і г.д. — чалавечыя эмоцыі, вартыя ўслаўлення, але гэтыя пачуцці — не што іншае, як сентыментальнай прыроды рамантызм і смутак па страчаным свеце міфу.., яны толькі адсланяюць нас ад рэальнасці" (Роберт Мукс). "Дамавікамерон" яшчэ раз ілюструе выснову Гігерыха аб немагчымасці вярнуць цела духу (ці дух целу) у ранейшым выглядзе ўжо толькі таму, што яны заставаліся і застаюцца рэальна непадзельнымі, нягледзячы на намаганні хрысціянства зрабіць такі падзел тэарэтычна. Глобус "вяртае" быццам бы адно аднаму, але дае зразумець, што адно аднаму не падыходзіць. А значыць — "сучасную" першаснасць трэба шукаць у іншым месцы.

У той жа час чыста літаратурная значнасць "Дамавікамерона" (яго game-мадэлі) у тым, што, дзякуючы яго ўзнікненню, сучасная беларуская літаратура паспела сказаць неапаганству "Так!" і "Не!", сутыкнуўшы супрацьлегласці і наблізіўшы новы якасны скачок у сваім развіцці.

"PLAY"

Перанясем нашу ўвагу на іншы бок паходжання твора — разгледзім яго не толькі ў якасці аўтарскага набытку, але і як праяву калектыўнага бессвядомага сваёй эпохі. Што можа азначаць з'яўленне твора, натуралістычнага да жывёльнасці?

У свой час падобныя водгукі атрымаў "Уліс" Джэймса Джойса, якога сучаснікі называлі творчым разбурэннем, якое "тыкае свайго сучасніка носам у сучаснасць, таму што яна таксама ёсць, прычым робіць гэта не зламысна, а з бязгрэшнай наіўнасцю мастака, які ідзе следам за аб'ектыўнасцю" (Юнг).

"Дамавікамерон" — такое ж адмаўленне, як і "Уліс". Яшчэ на пачатку стагоддзя Юнг кажа: "Я ўпэўнены, што ў нашым жыцці ніяк не скончыцца глыбокае Сярэднявечча". Пагэтаму і знайшліся такія пракорі адмаўлення, як Джойс (ці Фрэйд), каб распавесці сучаснікам, якія ніяк не перастануць жыць па мерках Сярэднявечча, што "тая" рэальнасць па-ранейшаму з намі". Час ідзе, але твор Глобуса зноў даў адчуць, што Сярэднявечча, яшчэ больш гіпертрафіраванае замоўчваннем, зноў з намі і ўнутры нас.

"Паўстанне прыгонных у сферы маральнасці", — так Ніцшэ мог бы вызначыць асноўную ідэю "Уліса"... Для людзей, павязаных шэрасцю свайго духоўнага паходжання, збаўленне заключаецца ў тым, каб "прызнаць існаванне свайго свету і свайго быцця ў ім. Дабрадзействам будзе для аслепленага ўзнесці цемру над святлом" (Юнг). Цікава, што Юнгава вызначэнне духоўнага Сярэднявечча — "пазбаўленне свайго жыцця прыгажосці, дабра і сэнсу, бо для людзей-

# ТРЫ ПУДЫ ЖЫТА

Іван ПТАШНІКАЎ



АПАВЯДАННЕ

яна даўно ўжо мела права на яе не хадзіць па гадах. Шэсцьдзесят ужо грукнула, адрабіла сваё, адцягала, але, калі прасіў, хадзіла: у вёсцы рук ніколі не хапала.

— Што, вочы заліў учора і цяпер няма ў каго пахмяліцца? Ва ўсёй вёсцы? Доднічай прыбег. Галава трашчыць, т-твою...

— Ты, Александрына, не мацярыся і не крычы, — ён раптам усміхнуўся на ўвесь свой кругленькі твар — на шчокі хлынулі глыбокія ўжо маршчыны і гаварыў ціха, што ўсё роўна баючыся яе: схопіцца за вілачнік, як тады за касу... Носік у яго некуды схаваўся, вочкі пашырэлі і пададбрэлі - зрабіўся, як дзіця. Ды і ростам ён сам быў невялікі, з хлапца. — У мяне для цябе навіна. І не абы-якая... — сказаў ён нарэшце смялей і абабіў ад мокрага снегу боты, доўга грукаючы аб падлогу. — Хацеў зайсціся ўчора вечарам, ды так склалася...

— П'яны быў, як бот, таму і не зайшоўся, — сказала яна і ў грудзях у яе ёкнула: проста так ён да яе не прыйдзе.

Яна памякчэла, зверху, як снег у раптоўную кароткую адлігу, і ён тады засмяяўся, дробненька і ціха: хі-хі... Як і ўсягды. Ні к сялу, ні к гораду.

— Я павінен забяспечыць сёння тваю яўку, Александрына.. Загадана... — загаварыў ён, адразу пасмялеўшы, палез у кішэню, дастаў пачак папярос, закурыў, напусціўшы такога праціўнага і едкага дыму, хоць ты з хаты ўцякай. — Познімся. Званілі ў канцылярыю аж з Плешчаніц. Старшыні. Але я не хацеў цябе наперад мітрэнжыць...

— Што анучу жвеш... Снег пад табой растаў скарэй, чымся ты слова людскае скажаў... — Яна раптам, як кальнула яе недзе ўсярэдзіне, адчула, што прыйшоў ён з нечым нядобрым. Загарэліся агнём шчокі, як на марозе. Не ведала, дзе дзець рукі; закарцела дастаць з куклы грэбень. Дастаўшы, пачала зачэсваць валасы. З Петражыцкага ўжо не спускала вачэй.

— Дапытваюць баб. У Сушкаве. Учора ўжо дапытвалі. Цэлы дзень. Клічуць у хату да Юстыны.

— Што я — украла што? — спыталася яна і пачула, як у грудзях таўханула сэрца: Аркадзя ж, сын, заяву пісаў...

— Ды не... — Петражыцкі патаптаўся ў парозе, сагнуўся неяк увесь у крук і сеў на лаву — на самы край. Так і сядзеў на краі, падпёршыся нагамі і баючыся пасунуцца далей. На яе не глядзеў — на боты. — Дапытвае кагэбіст, з Мінска. Мне загадана цябе даставіць і ўсё. Сёння раніцай. Ушчамлю зараз Дэраша ў вазок і пад'еду. Падчапурыся.. Учора Сушкава дапытвалі, цяпер узяліся за наша Задроздзе. За тых, у каго ў трыццаць сёмым мужыкоў пабралі. І твайго Сяльвестру. Якая тут табе кража... — ён паглядзеў на яе і адвярнуўся. Устаючы з лавы, грукнуў макраватымі ботамі па падлозе, паглядзеў скоса на стол, дзе пад белым абрусам ляжала бугром круглая буханка хлеба, зіркнуў па белай новай зашклёнай шафцы, якую сёлета ўвосень, папрасіўшы Царука з машынай, прывезла Волька з Плешчаніц, — шукаў, каб за што зачапіцца сваімі п'янымі вочкамі, хоць за парожнюю шклянку. Хаця яму, каб устаць з лавы, трэба было ўжо добра ўпёрціся нагамі ў падлогу.

Заныла недзе глыбака ў грудзях і не адпускала — праціўна, горка, з тупым болем. Яна ўсё яшчэ стаяла ля акна ад вуліцы і ўся гарэла, як у агні. Высокая, ценкая, высахлая за сваё праклятае бязмужнее адзінокае жыццё на трэску — адна гадавала трое дзяцей, бегала кожны божы дзень у калгас ад цямна да цямна да нарадзе, насіла кляймо сям'і ворага народа, памагала ў вайну партызанам, рвала жылы пасля вайны пры бясхлебіцы, пакуль не састарэла і пакуль не перасталі да яе чапіцца калгасныя брыгадзіры, каб ішла араць, баранаваць, жаць, выкідаць з праварын гной, палоць, выбіраць бульбу, даглядаць, малаціць, калаціць... Гэтулькі ўсяго перарабілі рукі з кляймом; згінь ты, благое, прападзі, што цяпер зусім адсыхаюць: круціць іх, выварочвае ў суставах кожную ноч...

Петражыцкі, устаўшы, ацёрся плячом аб вушак і сказаў:

— Будзь, як штык... Пад'еду.

Яна тады выскачыла з-за стала на хату:

— Нікуды я з табой, аглаедам, не крануся! І гаварыць ні з кім не стану! Клічуць... Дапытваюць...

— Не паедзеш са мной, міліцанер перад сабой пагоніць. Па гурбах. Так што — збірайся і без конікаў. Гэта табе не снег на дварэ, а кагэбэ.

— Не страш. Адбаялася. Усё жыццё баялася, да старасці... не страш... — яна ашчапіла далонямі галаву і аблакацілася на стол, каб перавесці дух. Угледзела яшчэ раз чырвоныя вочы Петражыцкага ў парозе і чырвоныя грудкі гіля — зноў ускочыў на падаконнік ад вуліцы.

Калі яна праз гадзіну села з Петражыцкім у вазок на ўзгоенае сена — ля самых варот, — чырвоныя грудкі пырхнулі з падаконніка на старую чорную высокую — вышэй страхі — рабіну і падалі ядраны дзяркаты галасок. Зверху з рабіны на снег пад ногі Дэрашу пасыпаліся адмерзлыя буйныя чырвоныя ягады — як пырскі крыві.

2

Вецер, зайшоўшы з начы з Загуменя, з поўначы, нагнаў снегу ў вуліцу ўровень з платамі, і цяжка было выехаць на дарогу да маста — вазок кідала з боку на бок, і Дэраш напінаўся ў аглобнях. З другога канца вёскі з-за павароту ім насустрач ішлі на мост два мінскія МАЗы з прычэпамі: везлі дрэва — доўгія і тоўстыя, у абхват сосны, зацярушаныя снегам. Прычэпы — на ўсю расцяжку, гружаныя — як павязці, — здалёку здаваліся, як горы, прымглёныя белым снежным туманам. Сунуліся яны памалу, чмыхаючы і равучы між гурбаў; чорныя колы пад імі былі абсыпаны белым дробным інеем. Запахла дымам ад згарэлай саляркі і паленай гумай.

На павароце да маста яны якраз спаткаліся з МАЗамі нос у нос, і Александрына ўзяла ў Петражыцкага з рук лейцы, каб прыцішыць Дэраша і прапусціць наперад машыны: Петражыцкі, не знайшоўшы ў яе дома ні кроплі, знайшоў у некага і, пакуль запрогся і пад'ехаў да яе варот — звіўся і цяпер, апусціўшы галаву на грудзі, драмаў: не браў яго ні мароз, ні север.

Александрына пачакала, пакуль МАЗы адзін за адным мінулі мост, і тузанула каня за лейцы. Дэраш, збіўшыся з тропу, пераходзіў з адной каляіны ў другую — шукаў зручнейшай дарогі; вазок, як лёгкія дзіцячыя саначкі, кідала з боку на бок, і яна цяпер, трымаючыся за поручань, скоса пазірала на Петражыцкага: выкуліш яшчэ недавярка, то ці падымецца сам, усцягваць яшчэ прыйдзецца.

МАЗы былі ўжо далёка на горцы, чуваць быў толькі іх рокат, пасля і ён аціх, і зноў заскрыпеў пад палазамі снег. Поле за мастом паабапал дарогі пасля машын зрабілася белае і чыстае, як лагодная чалавечая доля... Паказалася было над далёкімі садамі з-за хмары сонца і адразу схавалася; зноў пасыпаў снег з крупамі — калючы сек па твары; шчыпаў за шчокі востранька мароз, чуваць было, як ён залазіць пад кажушок і стынуць плечы. Над белым снежным полем, абганяючы сані, каркнула прастуджаная варона - ляцела з адной вёскі ў другую, неяк бачком, і здавалася, што яна махае адным крылом.

З таго часу, калі раніцай пайшоў з хаты Петражыцкі, Александрына думала толькі пра Сяльвестру. І не пазнавала сябе: успомніць ці пачне гаварыць пра яго — робіцца вялая і не можа стаяць на нагах. Толькі слёзы цякуць з вачэй, як рака... Раней такога не было.

МАЗы праз Сушкава не пайшлі, адзін за адным звярнулі перад вёскай на гароды і падаліся полем у аб'езд, працёрлі сабе новую дарогу да шашы на Плешчаніцы: у вёсцы вуліца была занесена снегам вышэй частаколу. А вецер, дзьмучы з поўначы, усё гнаў і гнаў сухую белую муку, у перамешку з дробненькімі крупкамі, якраз сюды, у вуліцу, ім у спіну, заносячы адразу тор ад саней. Палазы скрыпелі, чапляючыся за вяршкі частаколін.

У Сушкаве яны спыніліся каля Юстыны, якраз пасярод вёскі. У Юстыны, у вялікай, на дзве палавіны хаце была некалі калгасная канцылярыя; калі злучылі калгасы, канцылярыю перавялі ў Хадакі, у цэнтр, і ў Юстыны была школа, не доўга, гадоў пяць, пакуль пабудавалі новую ля вёскі.

Юстына, невысокая ростам паўнаватая жанчына, можа, трохі маладзейшая за яе, Александрыну, чысціла на дварах лапатай, якой садзяць у печ пячы буханкі хлеба, снег — зграбала і перакідвала за частакол у гарод. Лапата ў яе руках была ўся белая — і ад мукі, і ад снегу, і ў самой Юстыны выбіваліся з-пад хусткі з двух бакоў пасмы белых валасоў.

"Чысціць мне дарогу да кагэбіста..." — падумала Александрына яшчэ ў вазку.

Петражыцкі, калі пагнала, закруціўшы на горцы, у вочы снег, прачнуўся сам, не трэба было яго будзіць і цяпер, хукаючы ў чырвоныя пакрэплыя рукі — рукавіцы ці забыўся дзе на ферме, ці згубіў на дарозе — прапусціў яе наперад у двор да Юстыны, як успомніў, што яе, Александрыну, трэба даставіць і што яна можа спалохацца і збегчы ў апошнюю хвіліну.

— З самай раніцы вас, такіх, чакаем, любка. Не вы першыя. І ўчора вас прымалі... — адказала ім Юстына, калі Петражыцкі спытаўся: "Ну дзе тут хто?", і пайшла наперадзе ў хату, несучы перад сабой драўляную лапату. У прыхожай паставіла ў качарэжнік, сказала: "Снег можаце не счышчаць, растане і высахне", калі Петражыцкі пачаў грукаць аб падлогу вялікімі кірзавымі ботамі, і паказала рукой у другую палавіну хаты ад вуліцы — у першай яна жыла адна, дажываючы век.

Петражыцкі, усё яшчэ грукаючы аб сухую і звонкую падлогу ботамі, піхнуў навотліж рукой дзверы ў другую палавіну хаты, і Александрына яшчэ з парога, спыніўшыся, убачыла кагэбіста — сядзеў за сталом пасярод хаты — і ўтаропілася адразу ў яго вачыма. Петражыцкі, стаўшы перад сталом, сцягнуў з галавы скамечаную шапку, выпрастаўся — успомніў, мусіць, як сам быў у арміі — і "далажыў":

— Даставіў, таварыш начальнік... — І назваў яе імя, прозвішча і вёску.

"Таварыш начальнік" паглядзеў на яго і, нічога не сказаўшы, лёгенька махнуў рукой: паказаў яму на дзверы.

Петражыцкі такога не чакаў, думаў, недзе, што будзе сядзець, растапырыўшы ногі і разявіўшы рот, і слухаць, як стануць "дапрашваць баб", тады пачне прадаваць "навасці" па ўсёй вёсцы за сто грам. Павярнуўшыся, ён з нейкай злосцю сказаў ёй, Александрыне:

— Дамоў дойдзеш сама. Маё дзела было даставіць. У мяне работа.

— Мінутачку... — кагэбіст устаў з-за стала і падышоў да яе.

— Дойдзеце? Па такой дарозе? Снег, мяцеліца... А то — будзе чакаць стольki, колькі трэба. Прывёз і адвязе...

— Не-не... — у яе перасохла ў роце, не загаварыць. — Дай-ду-у... Далёка тут. І сюды магла б сама прыйсці. Не такі я вялікі пан. Чаго гэта будзе і ён, — паказала рукой на Петражыцкага, — марнець тут і конь на вуліцы мерзці. Дайду.

Петражыцкі ціхенька зачыніў за сабой дзверы.

Кагэбіст вярнуўся і зноў сеў за стол. І пакуль ён падыходзіў да яе, яна добра яго разгледзела.

Зусім малады хлопец. Гадоў дваццаці, ну, можа, дваццаці пяці ад сілы. У яе такія ўжо ўнукі. Лёнік і Вова. Нечым і падобны трохі на Лёніка. І ростам, і нос вастраваты. І стрыжаны коратка. Валасы русявыя, зализаны на лобе набок.

У чорным касцюмчыку, пад гальштукам, сарочка белая. Вочы светлыя, добрыя. Глядзіць на яе ціха, з лагодай, хоча ўсміхнуцца, каб не быць строгім, а ў яго не выходзіць. У бліскучых чорных чаравіках...

"Як ён даехаў па такім снезе і марозе? Нібыта яго прывезлі на легкавой машыне аж сюды, у Сушкава на двор да Юстыны. І высадзілі ля ганка..." - падумала яна пра яго. Падумала пасля, што ён мог папрасіцца ў кабіну МАЗа і ехаць у цяпле. Хацела нават спытацца.

Ён паказаў ёй лёгенька, як і Петражыцкаму, рукой на старое круглае крэсла, што стаяла перад сталом, трошкі збоку — сам ён сядзеў на такім жа з другога боку, ад акна, — і яна падышла і села.

Ён доўга глядзеў на яе добрымі вачыма і маўчаў. Не ведаў, з чаго пачаць, ці што? Тады зноў падняўся з-за стала:

— Вам будзе лепш, Аляксандра Раманаўна, калі распрануцца... — падышоў, узяў рукамі за плечы. — Зніміце кажух. У хаце цёпла, Юстына натапіла, як перш у школе.

"І пра Юстыну ўсё ведае", — падумала яна.

Ён узяў у яе з рук кажух, аднёс у парог і павесіў там на высокую стаячую дзідаватую вешалку, відаць, засталася яшчэ ад школы — на ёй вісела і яго паліто з каўнярам і дарагая зімовая шапка; яна зняла з галавы шарсцяную вялікую хустку і накінула на плечы, на нажутку. Дастала з-за куклы доўгі выгнуты грэбень, правяла ім па сваіх гнядых, пасівелых толькі трохі на лобе валасах і зноў схавала за куклу. Паклала на калені рукі і сядзела, думаючы: "Ён жа адтуль, ад іх, дзе ўсё ведаюць пра Сяльвестру. Усё, да дробненькай макулінкі..."

А малады кагэбіст усё не садзіўся. Хадзіў і хадзіў ад стала да вешалкі ў парог, ступаючы неяк асцярожна па жаўтаватай вышараванай падлозе. Падыдзе да напаленай грубкі, пакладзе на яе з двух бакоў растапыраныя рукі — як апшчэпіць — і грэе, хоць у хаце было добра натоплена, Юстына пастаралася. Пасля зноў ходзіць...

Александрына тады ўздыхнула на ўсе свае збалелыя грудзі, глыбока і працяжна, нібы гэтым уздыхам сказала яму наперад усё, што мелася яму сказаць сама, і адказала на тое, што ён хацеў у яе спытацца. Яна ўжо за ім не сачыла — ходзіць, хай ходзіць — і калі падняла вочы, убачыла, што ён сядзіць ужо за сталом і нешта гаворыць да яе. Яна пачала слухаць.

Ён назваў сябе па званні і па прозвішчы. Яна пачула, нават падумала, што запомніла, але злавіла сябе на тым, што адразу забылася: мусіць, захвалявалася, бо дробненька задрыжэлі пальцы на руках, якія ляжалі на каленях.

Спёрла ў горле. І калі яна пачула: "Ваш муж Сяльвестр Лазаравіч"... ужо далей ніяк не магла злавіць, пра што гаворыць чалавек за сталом. Спёрла ў горле, і яна адразу заплакала. Ведала, што гэта не тое месца, дзе трэба плакаць, і што не перад гэтым хлопцам, але не можа сябе сцішыць у кулак: хлопец жа адтуль, дзе ўсё ведаюць пра Сяльвестру...

Ён яе не супакойваў. Сядзеў і чакаў. Тады зноў устаў з-за стала і пахадзіў па хаце: у парог, з парога аж да акна. Калі ён не першую яе дапытвае, то, відаць, ужо наслухаўся і плачу і нагледзеўся бабскіх слёз. А таго плачу — вёскамі, і слёз — рэкамі ён не чуў і не бачыў: маладзён...

— Давайце тады, Аляксандра Раманаўна, пачнём з другога, — ён зноў быў за сталом. Стаяў, не садзіўся на крэсла. — Пачнём здалёку. З лягчэйшага. З маладзейшага. Як вы пазнаёміліся з Сяльвестрам?

— Як пазнаёмілася? А ў Амерыцы...

— А як вы апынуліся ў Амерыцы?

— Гм-м... У Амерыку я паехала аж у адзінаццатым годзе... — яна пачула, як адразу пачала супакойвацца. Палягчэла ўсёй, нават усміхнулася праз слёзы. — Мне тады пераваліла ўжо за дваццаць. Завербавалася, села на параход і паехала. У заработкі. А дома, у Шышчыцах пад Слуцкам, яшчэ тры сястры асталіся. Усіх нас было чацвёра ў сям'і. Старэйшая я. Я і паехала. Долі лепшай шукаць на свеце. Тады я не адна паехала. На параходзе дык адны беларусы і былі. Многа ехала...

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Прэм'ера ў Магілёве

**Не так часта цяпер на Беларусі адбываюцца тэатральныя прэм'еры. Але тэатр — жыве, нягледзячы на тое, што ва ўсе часы, спрыяльныя ці не спрыяльныя для мастацтва, рэгулярна аб'яўлялася, і не самымі несвядомымі розумамі, аб ягонай смерці — як усяго мастацтва так і тэатра ў прыватнасці. Так, тэатр жыве і будзе жыць, і пацвярджэннем яго жыццяздольнасці тое, што тэатр жыве ў самім народзе — яму аддаюць свае таленты не толькі прафесіяналы, але і тыя, хто ахвяруе яму свае сілы, кіруючыся толькі шчырым энтузіязмам, толькі любоўю да Яго Вялікасці Тэатра, да культуры роднага краю.**

**Народны тэатр-студыя Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і вольнага часу добра вядомы на Беларусі, як вядомы і яго кіраўнік, заслужаны работнік культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч. У тэатры-студыі разнастайныя накірункі працы ў розных тэатральных жанрах, сярод іх — праца ў такім складаным тэатральным жанры, як монаспектаклі. Напрыканцы чэрвеня ў памяшканні Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і вольнага часу адбылася прэм'ера монаспектакля "Амор ардэнс" ("Полымя кахання") па драматычнай паэме Людмілы Рублеўскай. Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля — Валянцін Ермаловіч. Выканала спектакль актрыса Лілія Кузьменка. Мастак спектакля — М. Ціток. Нягледзячы на тое, што час прэм'еры супаў з нетэатральным сезонам, спектакль знайшоў сваіх гледачоў — тых, хто неабыякавы да гісторыі Беларусі, да культурных падзей у родным горадзе. Бо спектакль распавядае пра трагічныя і рамантычныя падзеі гісторыі Бацькаўшчыны перыяду нацыянальнага адраджэння пачатку стагоддзя, а ў цэнтры сюжэта — гісторыя кахання беларускага грамадскага дзеяча, заснавальніка газеты "Наша Ніва", археолага і палітыка Івана Луцкевіча і віленскай немкі Юльяны Мэнке (Юльяны Вітан-Дубейкаўскай). Выканаўца спектакля Лілія Кузьменка здолела перадаць закладзены ў паэме пафас перамогі светлага, самаахвярнага пачуцця над цяжкімі жыццёвымі абставінамі і нават над самой смерцю. Рэжысёр спектакля знайшоў цікавае пастановачнае рашэнне. Спектакль шчыра ўзрушыў усіх, хто прысутнічаў на прэм'еры. Цікавасць імпрэзе надало і тое, што пасля спектакля гледачы займелі магчымасць сустрэцца з аўтарам паэмы паэтэсай Людмілай Рублеўскай і паэтам Віктарам Шніпам.**

**Думаецца, спектаклю наканавана доўгае жыццё, і шмат хто з магілёўчан зможа адкрыць для сябе новую цікавую старонку з айчыннай гісторыі, а таксама артыстычны талент выканаўцы спектакля.**

**Н. К.**

## Добрушскі фарфор



**У ліпені закрытае акцыянернае таварыства "Добрушскі фарфоравы завод" адзначыла сваё 20-годдзе. За гэтыя гады прадпрыемства не толькі на ўнутраным рынку заявіла аб сабе як аб вытворцы прыгожага посуду, але і атрымала вядомасць у многіх рэгіёнах былога СССР. Добрушскі фарфор экспанаваўся на выставах многіх краін Еўропы і Амерыкі.**

**Адна з апошніх распрацовак мастакоў эксперыментальнай лабараторыі прадпрыемства распісаны кобальтам чайны набор "Падарункавы", які падрыхтаваны спецыяльна да юбілею прадпрыемства.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

***Прайшоў год, як было абвешчана аб стварэнні ў Мінску Музея сучаснага мастацтва (пастановай Савета Міністраў і загадам Міністэрства культуры музей афіцыйна, але толькі на паперы, існуе з 26 чэрвеня 1997 г.). Ідэя яго стварэння доўгі час абмяркоўвалася ў колах зацікаўленай інтэлігенцыі. Спрэчкі падмацоўваліся тым, што падобныя музеі даўно дзейнічаюць ва ўсіх развітых краінах свету. На Беларусі ж, якая можа пахваліцца выдатнай мастацкай школай навучання, прызнанай на еўрапейскім узроўні, мае значныя набыткі ў творчасці мастакоў-прафесіяналаў, цікавыя знаходкі ў маладых мастакоў, што толькі выйшлі на самастойны шлях, — дагэтуль зборам калекцый сучасных майстроў займаліся толькі асобныя дзяржаўныя і прыватныя структуры (напрыклад, Нацыянальны мастацкі музей, галерэя "Жыльбел").***

***Музей сучаснага мастацтва быў заснаваны не на пустым месцы, а з фондаў і на плошчах зліквідаванага шматфункцыянальнага комплексу "На ростанях". Гэта структура Міністэрства культуры праіснавала каля шасці гадоў, працавала, так сказаць, ва ўсіх магчымых накірунках творчасці (ад кіно да выяўленчага мастацтва), займалася яшчэ шмат якой дзейнасцю, прызначэнне якой дасюль дакладна невядома. Зразумела, што збор твораў беларускіх мастакоў, які дастаўся новаму музею ў спадчыну ад МВК "На ростанях", а таму ад былой Дырэкцыі мастацкіх выстаў, наўрад ці зможа скласці фонды музея і адпавядаць яго канцэпцыі. Ён хіба можа стаць асновай першых экспазіцый, перасоўных выстаў, пэўнай базай, на падставе якой музей станецца структурай, што сапраўды будзе адпавядаць сваёй назве.***

***Прайшло зусім мала часу з дня стварэння музея. Наперадзе — шматгадовае будаўніцтва, адшліфоўка канцэпцыі, вялікія закупкі. Але ж першыя творы для новага музея ўжо набыты, механізм адбору твораў для музейных экспазіцый і фондаў адладжваецца, прайшла выстава пад сімвалічнай назвай "Новая калекцыя" з набытых работ і тых, што мяркуецца закупіць у бліжэйшы час. І, як кожная новая справа, якая, да таго ж, закранае меркантыльныя інтарэсы творчых асоб, яна мае як прыхільнікаў, так і крытыкаў. Прагучалі, скажам, незадаволеныя галасы тых, хто лічыць, што работы адбіраюцца па "сяброўскіх" прынцыпах, а сам музей займаецца, маўляў, толькі інтэграцыйнай дзейнасцю. Пра ўсё гэта — гутарка нашага карэспандэнта з дырэктарам Музея сучаснага мастацтва, народным мастаком Рэспублікі Беларусь Васілём ШАРАНГОВІЧАМ.***

# Васіль ШАРАНГОВІЧ: "Выявіць і паказаць лепшае..."



— Нейкі год для дзейнасці новага музея, — заўважыў Васіль Пятровіч, — не дужа вялікі час. У дадатак і дзяржава не мае сёння магчымасці задаволіць усе фінансавыя выдаткі такой вялікай і вельмі нятаннай структуры. А музей мусіць яшчэ і дабудоўвацца, і набываць вялікую колькасць твораў для сваіх фондаў. Калекцыі вядомых музеяў складваліся не проста гадамі — стагоддзямі. Таму патрабаваць ад толькі што створанага музея імгненнай аддачы ў выглядзе ўсебакова падабранай экспазіцыі — значыцца заведама ставіць перад ім немагчымую задачу. Музею сапраўды былі перададзены фонды МВК "На ростанях", недзе каля 1500 работ. Але пры зборы іх не вялося ніякай сістэматызацыі, не было пэўнай канцэпцыі. Творы набываліся выпадкова, яны вельмі адрозныя па ўзроўні прафесійнага майстэрства, далёка не ўсе з іх здольны прайсці цяперашні кампетэнтны адбор музейных работнікаў і запрошаных спецыялістаў (з ліку вядомых мастакоў і мастацтвазнаўцаў). Творы, якія не ўвойдуць у фонды новага музея, будуць экспанавацца ў музеях абласных цэнтраў Беларусі, складуць аснову перасоўных выставаў. Зрэшты, менавіта наш музей мусіць паклапаціцца, каб сучаснае беларускае мастацтва дэманстравалася не толькі ў сталіцы, але знайшло сваё месца і ў правінцыі. Бо якраз актыўнасць і зацікаўленасць правінцыі ва ўсім свеце з'яўляецца паказчыкам агульнанацыянальнай культуры.

**— Новы музей ставіць перад сабою задачу збіраць творы, кіруючыся найперш прафесійнымі і мастацкімі якасцямі работ. Выставай "Новая калекцыя" музей ужо грунтоўна заявіў аб гэтым. Як рэальна ідзе адбор твораў?**

— За гэты невялікі адрэзак часу набыты 23 творы, з іх 10 жывапісных. Аналіз раней набытай калекцыі паказаў, што ў нас ёсць цэлы шэраг мастакоў, прадстаўленых шматлікімі творамі. Сярод іх такія жывапісцы, як В. Гоманаў, М. Чэпік, В. Вярсоцкі, В. Кожух, В. Шматаў, Р. Кудрэвіч і іншыя, графікі Н. і Г. Паплаўскія, В. Гладкевіч, С. Волкаў, А. Кашкурэвіч, В. Садзін, М. Шматава, В. Баранаў і іншыя. Але, як ні дзіўна, у калекцыі няма ніводнага твора народных мастакоў рэспублікі В. Грамыкі, М. Данцыга, У. Стальмашонка і многіх іншых вядомых майстроў рэспублікі. Таму мы ставім сваёй мэтай у першую чаргу пашырыць прадстаўніцтва знакамітых мастакоў, па-другое, сур'ёзна вывучыць мастацтва нашых абласцей, па-трэцяе, даць магчымасць маладым талентам паказаць сваё майстэрства, заявіць аб сабе.

Наш прынцып набыцця новых твораў — купляць лепшае, і купляць па дастойных цэнах. Лепш набыць менш твораў, але даць магчымасць мастакам адчуць, што і свая дзяржава можа годна ацаніць іх творчасць. Само сабою, і ўзровень твора быць павінен высокі. Музей проста не мае права быць структурай сабеса, месцам дапамогі ўсім жадаючым. Яго задача — выявіць лепшае, што зроблена ў наш час.

Работы мастакоў пакуль што мы адбіраем у асноўным на выставах. Але пачынаем уводзіць у практыку і знаёмства з новымі творамі мастакоў у майстэрнях. Навуковая рада музея аглядае творы і дае абгрунтаваныя рэкамендацыі экспертнай камісіі для закупкі твораў. У навуковую раду музея ўваходзяць дзевяць чалавек, чатыры прадстаўнікі музея (у тым ліку і я, як мастак-графік і дырэктар) і пяць запрошаных мастакоў і мастацтвазнаўцаў. Гэта І. Мятліцкая (ад Міністэрства культуры), М. Баразна, Г. Вашчанка, А. Слабодчыкаў, В. Бартлава. Як бачыце, адборам работ займаюцца прадстаўнікі ўсіх асноўных накірункаў мастацтва (жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва), розных стыляў у асабістай творчасці, розных узроставых пакаленняў. Менавіта з гэтага можна рабіць выснову аб незалежнай ацэнцы і кампетэнтнасці камісіі.

**— У "ЛіМе" за 24 ліпеня 1998 г. у сваім інтэрв'ю мастак А. Марачкін зрабіў вашаму музею шэраг папрокаў. Як вы да гэтага ставіцеся?**

— Я быў проста здзіўлены іх неабгрунтаванасцю, беспадстаўнасцю і безапеляцыйнасцю. Я вымушаны на гэты выпад адказаць і адказаць фактамі, бо такога кшталту заявы заводзяць у зман грамадскую думку.

Напачатку хачу сказаць, што сёння мы гаворым практычна яшчэ не пра музей, а толькі, так бы мовіць, пра захады па яго стварэнні. Мы маем дырэкцыю, выставачную залу, якая адкрылася толькі 18 мая гэтага года, перададзеную нам адначасна невялікую і выпадкова-падборы калекцыю мастацкіх твораў без сталага фондасховішча. Ідзе праца па ўпарадкаванні і інвентарызацыі фондаў, распрацоўваецца канцэпцыя будучага музея, разгортваецца выставачная дзейнасць, ідзе праца над праектам рэканструкцыі былога кінатэатра "Беларусь" пад будучы музей. Усё гэта гаворыць аб беспадстаўнасці сцвярджэнняў А. Марачкіна.

**— А як наконт суб'ектывізму ў справе закупак і абструкцыі суполкі "Пагоня"?**

— Смех дый годзе! Ну, найперш, як можна рабіць якую-небудзь выснову, калі закуплена мізэрная колькасць работ? Пра прынцыпы я ўжо гаварыў, цяпер назаву некаторыя агульнавядомыя імёны: Г. Вашчанка, Л. Шчамялёў, В. Альшэўскі, В. Сумараў, У. Зінкевіч, У. Савіч, В. Славук, В. Шкаруба, К. Харашэвіч. Навуковая рада музея рэкамендуе на наступны разгляд экспертнай камісіі творы В. Грамыкі, Ф. Дарашэвіча, І. Рэя, Б. Казакова, Л. Давідзенкі, А. Кузняцова, маладых мастакоў А. Малышавай, П. Татарнікава, Ю. Анушкі. Усіх пералічваць няма патрэбы, але і гэтыя імёны сведчаць аб шырокім спектры аб'ектыўнасці ў стаўленні да лепшых здабыткаў нашага мастацтва ўсіх пакаленняў, усіх напрамкаў.

Што датычыцца суполкі "Пагоня", то не трэба лічыць, што самыя лепшыя мастакі толькі там. Але А. Марачкін, напэўна, не ведае, што ў нашай калекцыі больш за сто твораў прадстаўнікоў суполкі, сярод іх і чатыры пэндзля самога А. Марачкіна, пяць — А. Ксяндзова, сем — Ю. Хілько і г.д. Так што, калі ўзяць ды падлічыць у працэнтных адносінах, то, можа, і сапраўды ёсць "кланава-сяброўская прыкмета", але якраз у дачыненні да суполкі "Пагоня".

У сувязі з гэтым хачу цвёрда паўтарыць, што крытэрый адбору твораў — толькі высокапрафесійнае мастацтва ўсіх накірункаў без перавагі якіх бы то ні было фарміраванняў, без аніякай палітычнай заангажаванасці.

А наконт "інтэграцыйных выстаў" скажу вось што. Не варта жадаемае выдаваць за наяўнае. Ініцыятыву маскоўскай грамадскай арганізацыі аб правядзенні сумесных выставы расійскіх і беларускіх мастакоў трэба толькі вітаць, як вітаць любыя іншыя выставы мастакоў усяго свету. Другая справа, што ўзровень іх павінен быць высокі. Але ў сувязі з гэтым усё ж хачу заўважыць, што Музей сучаснага выяўленчага мастацтва не быў ініцыятарам правядзення гэтай выставы, не ён яе і фарміраваў. Можна, безумоўна, прад'яўляць прэтэнзіі да Міністэрства культуры, але ж выдзеленыя сродкі на закупку твораў яно выдаткоўвае па прызначэнні. Іншая справа, што дзяржава мала іх выдзяляе, аднак я б не стаў ва ўсіх грахах вінаваціць толькі міністэрства.

**— Можа, вернемся да канкрэтных, надзённых праблем музея. Калі было толькі абвешчана аб яго стварэнні, падавалася, што ён пачынае існаваць больш на паперы, чым у рэальнасці. Хаця б таму, што канцэпцыя экспазіцыі была не выпрацавана (ды і адкуль ёй узяцца, калі і сам музей быў створаны нейк раптоўна). Музею былі аддадзены будынак былога кінатэатра "Беларусь", але галоўны архітэктар праекта Л. Маскалевіч не мог вызначыць канцэпцыю знешняга выгляду і ўнутранай структуры музея. Плошчы былога МВК "На ростанях" таксама былі аддадзены музею не цалкам — падзелены з тэатральным таварыствам. А створаныя раней выставачныя залы патрабавалі дапрацоўкі...**

— За апошні час многае змянілася, стала на свае месцы, дапрацавалася. Што датычыць канцэпцыі, то меркаванняў на гэты конт было і ёсць вельмі многа. Пачынаць "сучаснасць" прапануецца з пачатку стагоддзя, з 20-х гадоў, з 60-х, 70-х, нават літаральна з дня стварэння музея... Адбіраць "мэтраў" рэалістычнага мастацтва альбо толькі канцэптуалаў...

Хачу сказаць, што пытанне канцэпцыі музея застаецца адкрытым, мы запрашаем да яго абмеркавання ўсіх спецыялістаў. Асабіста я не магу пагадзіцца адносіць да сучаснага мастацтва сацыялістычны рэалізм. Гэты мастацкі накірунак быў моцна абмежаваны штучна створанымі рамкамі, у якіх не было і не магло быць пошуку. Думаю, 70-я гады — час, калі ўзнікае так званы "суровы" стыль і пачынаецца моцны і непрыхаваны пошук новага — могуць стаць пачатковай кропкай адліку сучаснага мастацтва. А што адносіць да яго — рэалізм, абстракцыянізм, авангард — таксама выклікае спрэчкі. Думаецца, мы павінны быць у гэтым пытанні канфармістамі і ўводзіць у панаццэ сучаснага ўсе накірункі і віды мастацтва, якія існуюць у час, у які мы жывём. І, само сабою, вартае тое, што мае высокі прафесійны ўзровень. Ну, а вышыню гэтага ўзроўню, як я ўжо гаварыў, будзе вызначаць створаная пры экспертнай камісіі навуковая рада, адшліфуе час і гісторыя.

**— Творы сучаснага мастацтва доўгі час набываліся таксама Нацыянальным мастацкім музеем. Былы яго дырэктар Ю. Карачун распавядаў, што прыбудова да Нацыянальнага музея будзе прызначана менавіта для калекцыі твораў сучасных беларускіх мастакоў. Ці не атрымаецца ў дадзеным выпадку перакрыжаванне інтарэсаў двух музеяў?**

— Думаю, што Нацыянальны мастацкі музей і Музей сучаснага мастацтва будуць у любым выпадку разнапланавымі. Нацыянальны мастацкі музей — гэта больш гісторыя выяўленчага мастацтва. А да гісторыі адно-

ВАРУНКІ

# "Злачынная нацыя"

## З ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСА Ў "НОВЫМ ВАВІЛОНЕ"

Алесь ДРАЯНКОЎ

Я СКОНЧЫЎ справаздачу. Аўрум Гершкавіч тужліва ўздыхнуў і сказаў, з маркотным спачуваннем:

— Здольны вы чалавек, Саша але ніколі нічога значнага не дасягнеце ў жыцці, бо няма ў вас нахабства, а нахабства — другое шчасце.

Гаворка ішла аб тым, што я павінен быў выканаць складаны дыпламатычны захад: дамагчыся ў заказчыка неабгрунтаванага змянення праграмы работ, але не здолеў таго зрабіць, бо не быў перакананы ў справядлівасці гэтага кроку.

Я вінавата ўсміхнуўся і, задаволены тым, што не адбылося чакаемай лаянкі, моўчкі пайшоў да свайго стала. Пачынаць абстрактную дыскусію не выпадала.

Я збіраўся на сустрэчу са старым знаёмым, парадкаваў рэчы і пад уплывам размовы з кіраўніком разважаў, чаму ўсе гэтак спагадліва-паблажліва ставяцца да беларусаў. Ну, няхай тыя яўрэі-землякі, продкі якіх спрадвеку жылі на Беларусі, як у таго ж Аўрума Гершкавіча. Яны свае, і іхняя неабыякавасць зразумелая. Але ж і іншыя! Калі я адбываў студэнцкую вытворчую практыку на Урале, майстра, да якога нас прымацавалі, даведаўшыся, хто ёсць хто, запыніўся на мне, пільна агледзеў ад галавы — дзе, відаць, чакаў убачыць каўтун у валасах, абавязковы для беларуса — да ног без лапцяў і загадаў: "Хадзем!". Ён правёў мяне па ўсім заводзе, паказаў усё, што дазволена, і напрыканцы задаволена сказаў: "Вось цяпер ты пабачыў, якія ёсць вытворчасці. Таго не знойдзеш у сваім Палессі". А пра ўкраінцаў з іхнім характарам і казаць не трэба — ну проста родныя дзядзькі. Атрымліваецца згодна любай расіянам казцы:

***У старичушки три сына:***
***Старший умный был детина,***
***Средний сын и так, и сяк,***
***Младший вовсе был дурак.***

Безумоўна, прыемна адчуваць клопат аб меншым браце, але ж трэба калі-нікалі абскокваць і старэйшых, хай сабе без Канька-Гарбунка...

Такім самым быў і мой знаёмы, да якога я спяшаўся. Як усе карэнныя смаляне, ён быў зычлівы да ўсяго беларускага. Зычлівы на свой кшталт — а ў яго быў кшталт здатнага пітака. Пры кожнай сустрэчы ён ледзь не сілком накачваў мяне гарэлкаю. Бо лічыў, што ўсе беларусы агулам яшчэ больш здатныя пітакі. Часткова ён меў рацыю, зрэшты...

Сваім варушэннем я абудзіў суседа злева, які мірна пасопваў у фатэлі. Гэты фатэль ён атрымаў у спадчыну ад былога начальніка, свайго даўняга сябра-супрацоўніка, калі той сыходзіў на пенсію. Раней сусед, як усе мы, сядзеў на звычайным стуле, але, засынаючы, валіўся з яго на падлогу, чым палохаў увесь аддзел. Цяпер ён мог спакойна спаць за чарцёжнай дошкай, стомлены адсутнасцю працы. Адзіным ягоным абавязкам былі не надта працаёмкія клопаты з дакументацыяй калектыву камуністычнай працы. Звычайна я казаў яму, калі ён абуджаўся дачасна: "Спі спакойна, дарагі таварыш!". Але цяпер я паведаміў яму: "Пара ўжо!", і ён пачаў на дзіва шпарка збірацца дахаты.

Другі сусед, Руслан, распавядаў нешта вясёлае Люсі, якая рабіла выгляд, што слухае яго, хаця цалкам была захоплена адно праблемай свайго выгляду ў новым брылёчку. Як усе маладзіцы, яна слухала не тое, што кажуць, а як кажуць, таму недарэчна пасмейвалася, круцячы галавою перад люстэркам. Ах, гэтыя жанчыны! Каб апынуцца ў цэнтры ўвагі, яны здольныя на ўсё (адпаведна сваім магчымасцям): аб'явіць сябе непахіснай сталіністкай або прайсціся па подыуме без анічога...

Руслан скончыў заляцацца і павярнуўся да мяне:

— Ну што, пехатою да метро?

— Не, — адмовіўся я, — спяшаюся. У мяне сустрэча. Дарэчы, не пазычыш да палучкі траяк?

— Траяк? Хіба на траяк можна ачмурыць жанчыну?

— Не, я з сябрам сустракаюся. І наперад ведаю, што не адхрысціцца ад выпівону.

— А мне можна з вамі?

Руслан, як кажуць цяпер, калі я прыгадваю тыя даўнія падзеі, быў "лицом кавказской национальности". Сваёй нацыянальнасцю ён вельмі ганарыўся і ўсялякі напамін пра яе ўспрымаў насцярожана, бо заўсёды чакаў абразы. Таму што многія з тутэйшых лічылі, што "чуркам" і "хахлам" таксама смешна слухаць показкі пра іх, як і ім, расіянам. Я ж далікатна не кранаў гэтую тэму, таму Руслан сябраваў са мною — наколькі гэта было магчыма пры ягоным горскім гонары. Ды і пэўная дыстанцыя ад асяроддзя, што склалася па двухбаковай згодзе, асуджала яго на самоту. Сам ён быў досыць інтэлігентны і зграбны хлопец, схільны да манернасці ў стасунках, што не замінала тутэйшым выдаваць яго за непапраўнага нягодніка. Ад гэтакіх аднадушных ацэнак я і сам схіляўся да таго ж меркавання, але мне было шкада яго, і я запрасіў хлопца з сабою.

Ну вось і мой Лёха. Папраўдзе, ягонае імя было Анатоль, але ўсе пагалоў называлі яго Лёхам. Магчыма, за шчырасць і шырыню душы, а магчыма, за неўспрыманне нічога складанага ці "завумнага" і непавагу да этыкету.

— Ты яшчэ жывы? — пагрозліва спытаўся ён у мяне, як звычайна.

— Я ж абяцаў, што мы яшчэ сустрэнемся, — таксама традыцыйна пагрозліва адказаў я. — Гэта Руслан, мой калега.

Лёха без каментарыяў працягнуў Руслану далонь-рыдлёўку. Ягонай істоце было ўсё адно, сёння ён пазнаёміўся ці дзесяць гадоў таму. Я аддаў Лёху даведнік па канструктыўных матэрыялах, які і быў, уласна кажучы, нагодаю для нашай сустрэчы. Замест падзякі ён сказаў:

— Ага. Ну, распавядай, як маешся. Ды не на вуліцы. хадзем дзесь пасядзім.

Мы накіраваліся да бліжэйшай кавярні, прыхапіўшы бутэльку ў краме. Пасядзелі, наведалі піўны ларок. Потым — ужо на Русланавы грошы яшчэ ды яшчэ. Карацей, я ўжо досыць невыразна памятаў, што было далей. Так бы мовіць, перайшоў у другое вымярэнне. Мая маці называла гэткі стан: "Як цапок". З кімсьці быццам сварыліся. Калі трохі ачомаліся, было ўжо надта позна. Руслан спыніў таксі, бо ў яго былі грошы. Не таму, што быў такі багацей, а з-за ашчаднасці ў штодзённым спажыванні. Але калі трэба было паказаць фанабэрыю, ён не скваліўся. А мы грошай не мелі, з ім ехаць — нязручна, таму ўзяліся вырашаць, што рабіць. Як спяваў Высоцкі: "Метро не ходит, в такси не содют".

— Хадзем на Курскі вакзал, — прапанаваў Лёха. — Гэта мой любімы вакзал, як кажа адзін знаёмы бомж.

— Не, — адмовіўся я, — тут недалёка жыве мая радня, пераначую ў іх.

— Хто ж цябе пусціць гэтак позна ды яшчэ п'янага? — спрабаваў наставіць мяне на розум Лёха.

— Дык яны ж родныя. Калі не прымуць, будзе сорам да скону.

— Гэта што, завядзёнка такая? — здзівіўся Лёха. — А калі ты злодзей, якога міліцыя шукае?

— Усё роўна трэба пакарміць, абагрэць. Так спрадвеку.

— Злачынная вы нацыя, — сцісла падсумаваў Лёха і пашыбаваў на Курскі вакзал.

А я йшоў да сваякоў і з крыўдай на Лёху разважаў сам сабе. Якія ж мы злачынцы? Хіба ў чужы сад па яблыкі палезці? Дый і тое хутчэй нейкі рытуальны ўчынак, нешта накшталт ініцыяцыі: пакуль не злазіў — не пасталееў. Бо лезуць не таму, што свайго няма, а каб потым выхваляцца. Толькі паціху выхваляцца: тут ёсць пэўная этыка. Гаспадар, нават калі дазнаецца, хто зрабіў шкоду, ніколі не пойдзе з дакорам. Будзе чакаць зручнага выпадку для адплаты. У сваю чаргу, калі ён "перагуляе" хлопцаў, тыя не скардзяцца. А вось на Русланавай радзіме зусім іншыя гульні. Смяротна рызыковыя. Скажам, крадзеж жывёлы. Могуць і забіць — калі не адразу, дык потым. А крэўная помста? Невыпадкова асцерагаюцца каўказцаў: яны з дзяцінства звычныя да бойкі, у іх размова кароткая — "кынжал" у бок, і бывай.

На працу я з'явіўся змрочны і расцярэблены. А Руслан выглядаў як заўжды ахайна. Вось жа паважлівы да свайго іміджу народ!

— Колькі я табе вінен? — спытаўся я.

— А-а-а! — адмахнуўся ён, нібы ўладарыў маёнткам, дый не адзіным. — Другім разам ты заплаціш.

— Ну, няхай, — згадзіўся я: згаджайся — не згаджайся, усё адно грошай нямашака.

Патэлефанаваў Лёху. Ён жывы-здаровы, толькі міліцыя прызначыла яму штраф з нейкай нагоды.

— Нарабілі дзялоў, а штраф зарабіў за дробязь, — сказаў ён.

— Якіх дзялоў?

— Ну, калі я там камусьці па грыбах даў. Але ты развёў нас, перашкодзіў дабіць тую п'янь.

— Я не памятаю.

— Міратворац... А я дык пакрыўдзіў таго-сяго.

— Ты мяне пакрыўдзіў!

— Чым?

— А навошта ты назваў беларусаў злачыннай нацыяй?

— Я пажартаваў, не са зла. Калі пакрыўдзіў, выбачай.

Вядома, пакрыўдзіў. Нават жартам нельга так казаць пра наш лагодны і рахманы народ. Увесь свет ведае, што мы ніколі нікога нават пальцам не кранулі. А вось нас крыўдзілі — колькі заўгодна. Маці распавядала пра 19-ы. А мо і не 19-ы, яна малая была, можа, зблытала. Няважна. У тым годзе прыйшоў да вёскі польскі карны атрад. Атачыў вёску ланцугом (гэты ланцуг даўся мне ў знакі: я ўсё спрабаваў уцяміць, як жа яго давезлі, колькі ён важыў?). Сабралі сялян і пачалі караць: адных дубцамі, а другіх і вешаць сабраліся — на каго аканом маёнтка паказаў. Тут падхапіліся франтавікі ("хрантавікі", казала маці) з бліжніх вёсак. Былі яны рашучыя і ўзброеныя. Выратавалі. Пры гэтым забілі двух палякаў, астатнія збеглі лесам ці то ў Рагачоў, ці то ў Жлобін. Напалоханыя вяскоўцы падаліся хто куды. Калі неўзабаве прыйшоў больш моцны атрад, дык не заспеў, каго караць, апроч трох мужчын, што выпадкова апынуліся на сваіх дворышчах. Палякі павесілі іх і са зла спалілі дашчэнту вёску.

Матчына вёска ўвогуле нешчаслівая. У 41-м годзе адступала з суседняга раёна міліцыя. На лясной дарозе бліз вёскі дагналі яе немцы на матацыкле. Міліцыя забіла іх дый падалася сабе прэч. Панаехалі немцы, сагналі вяскоўцаў: "Хто гэта зрабіў?" Усе маўчаць, бо яшчэ не чулі нічога пра здарэнне. Немцы расстралялі адстаўшых чырвонаармейцаў, потым ўзяліся за маладых мужчын. Астатнія асуджана чакалі сваёй чаргі. Але тут падкаціў матацыкліст, нешта пагыргытаў сваім, і тыя сышлі.

Мала таго. Пачалася гісторыя з акружэнцамі. Яны хаваліся ў лесе, але час ад часу прыходзілі ў вёскі падсілкавацца, памыцца. З лесу іх не выпараш, тады немцы пачалі паліць вёскі, пастралялі, каго заспелі ў хатах, старых ды малых. За тым часам лесу хапала, адбудаваліся хутка. А тут партызанка расцвіла. Вельмі хацелі немцы знішчыць партызанаў, але ўжо не было ў іх былой моцы. Толькі бамбілі вёску і лес. Мы былі ў лесе, дык і нам крыху дасталося. Дзед бегаў ад дрэва да дрэва і жагнаўся, нібы ў навальніцу. А нам, малым, было весела — чыста фэст...

Дзіўна ўсё ж, што пабіліся ўчора. Я нічога не памятаю. Сказаў Руслану. Ён прамаўчаў наконт сутычкі, адно заўважыў:

— Хіба гэта адпачынак? Надрацца, пабіцца... Хадзем сёння ў парк, праветрымся, з дзяўчатамі пазнаёмімся.

Я не меў аніякага жадання праветрывацца і знаёміцца, але адчуваў сябе абавязаным яму за ўчора і таму згадзіўся.

Танцпляцоўка. Тлум. Гам. Дружыннікі злавілі падлетка, як уколваў дзяўчат шпількаю і атрымліваў ад таго асалоду. Цяпер яны калолі яго той самай шпількай і пыталіся: "Ну як, соладка?" Той вісчэў, як парсюк. Мы патапталіся і надумалі для пачатку папіць піўка.

Сутонела. Піва спажывалі прама на пляцоўцы, акрэсленай агароджай і кустоўем. Там было яшчэ цямней. З куфлямі ў руках мы адышлі ў свабодны кут і павольна смакталі пітво. Раптам да нас наблізіўся паддаты непаголены тыпус з нахабнаю ўхмылкаю. Ягоны твар са слядамі нядаўняй бойкі падаўся мне знаёмым, але я не мог прыгадаць, дзе я бачыў яго.

— Якая сустрэча! — ашчэрыўся ён. — Не пазналі? Маўчыце? А ўчора дык былі больш гаваркія.

За тыпусам падцягнулася яшчэ двое аналагічных.

— Ты адыдзі, а з чарнавусым мы паразмаўляем, — заявіў тыпус.

Я дапяў, што гэта датычыць мяне, хаця ён неадрыўна і здзекліва глядзеў пры гэтых словах на Руслана. Адзін з ягоных сяброў адціснуў мяне ўбок, а першы тыпус палез у кішэню. У роце зрабілася солана, думка мітуслівая гойсала — што рабіць? Больш за ўсё я баяўся таго, што зараз Руслан парэжа іх на шашлык (ён жа дзікун!), а потым адказвай разам з ім. І я выгукнуў папераджальна: "Руслан!". Але пачуў ягонае балбатанне:

— Вы што? Вы што! Вы ж самі першыя ўчора распачалі!

Твар ягоны амярцвеў, гатовы быў туліцца да зямлі, нібы сабака перад лупцоўкай. На мой выгук той, што адціскваў мяне з выклікам, павярнуўся. Я плеснуў яму ў твар рэшткі піва і, пакуль ён прадзіраў вочы, з размаху стукнуў куфлем па галаве першага, які ўжо паспеў выцягнуць з кішэні лязо, — так, як б'юць у парку па сіламеры. Куфаль мой разляцеўся на аскепкі, а задзірака склаўся купкай долу. Рука вызвалілася, і я даў добрага хука таму, што прадзіраў вочы, — накаўт! Трэці праявіў надзвычайную рэакцыю: убачыў, што застаўся ў меншасці, і з неверагоднай хуткасцю рвануў да выхаду з пляцоўкі. Я здолеў дагнаць яго толькі позіркам. Але знянацку адначасова рвануў за ім з "нізкага старту" і Руслан. Уцякач убачыў бакавым зрокам пагоню і загаласіў на ўвесь парк:

— Ратуйце! Забіваюць!

Руслан ужо амаль дагнаў яго, але раптоўна звярнуў убок і праз газон і кустоўе пабег у цемру. Я азірнуўся на зрынутых ворагаў — яны не варушыліся. Трасца, я ж упершыню ў жыцці ўдарыў чалавека, калі не лічыць дзіцячых сутычак. Усё ж яны пераацанілі маю хударлявасць і нягегласць, бо не ведалі, як я накачваўся з маленства на сенажаці і раллі, у лесе і хаце. Тут да мяне ўрэшце дайшоў жах майго становішча, і я азірнуўся: а што грамада? Грамада была зацікаўлена выключна бегунамі і нават падцягнулася бліжэй да выхаду, каб лепей бачыць. Падцягнуўся і я. Адзін спытаўся:

— Што ў іх там адбылося?

Я пацісуў плячыма, як старонні чалавек, і павольна пакрочыў прэч з парку. Удалечыні чуліся крыкі: "Вось туды пабег! Затрымайце яго!" А я ішоў, супакойваў дрыжыкі і здзіўляўся таму, што прайшоў якіх-небудзь пару хвілін.

З той пары я не баюся каўказцаў, хоць яны і акупавалі, як кажуць абывацелі, усю Маскву...

*г. Масква*

ПОШТА

# Які помнік — наступны?

У горадзе Лідзе засталося не так ужо і шмат помнікаў архітэктуры. У кнігу "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць", акрамя вядомых замкавых руін, занесены дзевяць будынкаў. Гэта дамы NN 3, 4 па вул. Камсамольскай, NN 23, 26, 31, 32 па вул. Савецкай, Іосіфаўскі касцёл піяраў (вул. Савецкая, 20, зараз гэта праваслаўная царква, а яшчэ зусім нядаўна тут быў размешчаны планетарый) і Крыжаўздвіжанскі касцёл (вул. Савецкая, 2). Іосіфаўскі касцёл піяраў быў пабудаваны ў 1797—1824 гг. У 1842 г. будынак гарэў, а ў 1863 г. быў перароблены ў праваслаўную царкву. Крыжаўздвіжанскі касцёл быў пабудаваны ў 1765—70 гг. Гэта помнік архітэктуры барока.

Зробім невялікі экскурс у юрыдычныя паперы. Закон "Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры" дае выразнае тлумачэнне, як улады і наогул жыхарства павінны адносіцца да помнікаў гісторыі і культуры. Арт. 45: "Знос, перамяшчэнне і змены нерухомых помнікаў гісторыі і культуры **забараняецца**. Выключэнне з гэтага правіла можа дапускацца толькі ў кожным асобным выпадку з дазволу Савета Міністраў..." Арт. 46: "Арганізацыя, якая хадайнічае аб зносе, перамяшчэнні ці зменах у помніку гісторыі і культуры, **абавязана** атрымаць заключэнне па гэтым пытанні ў Міністэрстве культуры і Рэспубліканскім таварыстве аховы помнікаў". Арт. 57: "Нерухомыя помнікі гісторыі і культуры (будынкі, збудаванні), акрамя выкарыстання ў навуковых, культурна-асветніцкіх мэтах, могуць быць выкарыстаны ў гаспадарчых і іншых мэтах, калі гэта **не наносіць шкоды** захаванню помнікаў і **не парушае** іх гістарычна-мастацкай каштоўнасці". І нарэшце арт. 78: "Да асоб, якія вінаваты ў парушэнні правілаў аховы і выкарыстання помнікаў гісторыі і культуры, калі гэтыя дзеянні па сваім характары не цягнуць на крымінальную адказнасць, **могуць быць прыменены меры адміністрацыйнага спагнання**, папярэджанне альбо штраф".

Як бачна, помнікі гісторыі і культуры, быццам бы, павінны быць добра абароненымі. Тым не менш, у Лідзе існуе пагроза гэтым самым помнікам. У доме N 3 па вул. Камсамольскай нядаўна была зроблена аптэка. І зусім нядаўна ў доме N 23 па вул. Савецкай у адной сцяне былі прарублены дзверы. Тут мае быць якая-небудзь крама ці офіс. Дазвол на змены ў знешнім выглядзе помніка архітэктуры даў намеснік галоўнага архітэктара г. Ліда спадар Зайцаў. Свае дзеянні ён матываваў тым, што, на ягоную думку, гэты будынак не ўяўляе ніякай мастацкай каштоўнасці, а пра тое, што дом N 23 занесены ў кнігу "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі", ён не ведаў.

Вось такія справы. Які помнік будзе наступным?

**Лілія САЗАНАВЕЦ**

*г. Ліда*

## З песняй па жыцці



У Кажан-гарадку Лунінецкага раёна жывуць два самадзейныя кампазітары — інвалід па зроку Андрэй Данілавіч Урбановіч і кіраўнік хору "Палессе" Лунінецкага ПТВ-146 Мікалай Рыгоравіч Вайцяхоўскі. На рахунку ў кожнага больш чым па сто песень, якія сталі любімымі ў народзе, бо многія з іх выконваюцца на эстрадзе як народныя.

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## Вучань не забыў настаўніка



У былога дэкана землеўпарадкавальнага факультэта Белсельгасакадэміі кандыдата тэхнічных навук Іллі Маісеевіча Стальмашонка — 80-гадовы юбілей. Павіншаваць свайго настаўніка прыехаў яго вучань, а цяпер намеснік старшыні Асамблеі народаў Казахстана, саветнік прэзідэнта па праблемах адукацыі, навукі, правоў чалавека, рэктар Казахскай архітэктурна-будаўнічай акадэміі доктар тэхнічных навук Павел Атрушкевіч. Ён уручыў юбіляру шыты золатам чапан — такіх падарункаў удастойваюцца толькі паважаныя аксакалы.

*Фота Мікалая ЦІТОВА, БЕЛТА*

## Адразу тры выставы



У Магілёўскай выставачнай зале прайшлі тры выставы, удзельнікі якіх — фотамастакі з Магілёва і Мінска, майстар нетрадыцыйнай вышыўкі мінчанка Тамара Багданава. Музей гісторыі Магілёва прапанаваў для прагляду фотаздымкі будынкаў магілёўскіх цэркваў і храмаў, якія калісьці ўпрыгожвалі старадаўні губернскі горад.

*На здымку: Тамара Багданава расказвае пра свае работы.*

*Фота Мікалая ЦІТОВА, БЕЛТА*

# ТРЫ ПУДЫ ЖЫТА

*(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)*

— Хвіліначку. Я віджу, што вы ўжо супакоіліся. Мы ўсё ж з вамі не ў бірулькі будзем гуляць. Усё, што вы будзеце гаварыць, запратаколім. І я хачу папярэдзіць вас... — ён памаўчаў, — аб адказнасці за адказ ад дачы паказанняў і за дачу ілжывых паказанняў...

Яна не слухала, што ёй гразіць. Яна ўсё жыццё ўсюды і ўсім гаварыла праўду...

— Ну вось, я вас папярэдзіў. — Ён сеў за сталом на крэсла. — Я думаю... гаварыць праўду ў вашых жа інтарэсах. Вы пісалі нам аб пераглядзе справы вашага мужа?

— Сын хадатайнічаў. Аркадзя... Ён і пісаў ад мяне.

— А якая ў вас адукацыя?

— Адукацыя? — усміхнулася яна. — Чытаць і пісаць умею. Сама навучылася.

— А дзе цяпер ваш сын?

— У Маладэчыне. Там жыве і працуе. Жанаты. І Аля, дачка, там, у Маладэчыне. І зяць, Перапёлка. Пасля партызан там астаўся і Аркадзю пасля арміі туды перацягнуў. І ўнукі мае ад Алі жылі там. Лёнік і Вова. Якраз такія, як вы. У ваенным вучылішчы цяпер адзін і другі...

— А сын ваш член партыі?

— Як тут сказаць. Цяпер — не. Быў усю вайну лётчыкам-радзістам. І ў партыі быў. А пасля вайны дзналіся, што ён зманіў. Што бацька не памёр, а забралі ў трыццаць сёмым. І выключылі з партыі.

— Ну, цяпер жа не тое. Вы ж ведаеце.

— Прасілі зноў у партыю. Але ён не захацеў. Працуе і ўсё. І дзяцей выгадаваў. Я за яго ні разу ў жыцці не чырванела...

Ён сядзеў за сталом і цяпер пісаў на белым-белым лісце паперы, хуценька і акуратненька.

— Ну, а з Сяльвестрам як вы пазнаёміліся?

— Я ж гавару, у Амерыцы. Не-е... Туды мы разам не ехалі. Адтуль ужо ў пятнаццатым годзе дамоў варочаліся разам. Пажаніўшыся. Пазнаёміліся з ім у чатырнаццатым, у чатырнаццатым і пажаніліся. А калі вярнуліся з Амерыкі ў пятнаццатым годзе, Сяльвестра праз два тыдні ўзялі ў царскую армію. Эхаха... духу не пераведу... Гэта ж як усё роўна я сёння побач з ім на параходзе... Як з вамі. Усё помню, не забылася...

— Я вас папрашу. Раскажыце пра Амерыку больш падробна.

— Пра Спрынгфілд? У Спрынгфілдзе, дзе я апынулася, Сяльвестра быў спачатку чорнарабочым, як і я. Пасля ўжо знайшлі работу на фабрыцы. І ён і я, яшчэ не ведаючы адно аднаго. На фабрыцы мы і сышліся. На фабрыку мяне ўзяў сам гаспадар. Выбраў з усіх і ўзяў. Фабрыка была невялікая. Парабляді ўціль — рызззё па-нашаму, павясковаму. Толькі ў нас па вёсках ездзіў на калёсах Бэрка і крычаў: "Шарсціне, варсінне і шчоткі благія"..., і яму бабы зносілі анучы з усёй вёскі да Петрусіхі ў канцылярыю. Бэрка даваў за рызззё мыла, фарбу, кручкі — рыбу лавіць. А ў Спрынгфілдзе была фабрыка: чыста, культурна. І прывозілі туды здаваць такую адзежу, якую ў нашай вёсцы насіць бы ды насіць, якой, можа, і ў вочы не бачылі. Я з паўгода стаяла ля вялікага стала — бліскучага, вузкага і доўгага. І мне падавалі адзежу на стол нейчыя рукі аднекуль знізу — я нават не бачыла чалавека. Рукі, адзежа — і ўсё. Я раскладвала на доўгім стале штаны ці рубашку і вострымі ножніцамі ці нажом адпарвала гузікі, аплікі, кнопкі, спрожкі і скідвала іх у вялікую фанерную скрыню, якая за дзень напаўнялася да краёў... Чыстую, без ніводнага гузічка ці шпілечкі, апратку я перакідвала на другі стол, які стаяў вышэй і з якога яе зноў зграбалі адны рукі — чалавека відаць не было, увесь быў завалены адзежай. Гузікі то я зразала лёгка, але ўсягды баялася, бо мяне папярэдзілі, каб не трапіла ад мяне на другі стол, што стаяў вышэй, адзежына з чым жалезным у кішэнях, і я акуратненька, з увагай усягды лазіла па іх, выварочваючы і атрасаючы ад пацярухі, пылу і табакі. Чаго толькі ў тых кішэнях не знаходзіла: гадзіннікі, ключы, іголкі, шпількі, расчоскі, ножыкі, ножнічкі і такія штучкі, якіх я і ў вочы ні разу не бачыла. У кішані доўгіх і вузенькіх чорных вельветавых штаноў я адзін раз і знайшла пярсцёнак, залаты, шырокі, на вялікі палец у чалавека. Бліщчэў так, хоць аслепні. Я, спужаўшыся не ведаючы чаго, аддала яго самому гаспадару фабрыкі. Паднялася высока наверх, спыталася дзе ён, мяне пусцілі, і я паклала пярсцёнак перад ім на стол і сказала, як і што. Ён доўга на мяне глядзеў, паказаў на крэсла, каб села. Перапытаў раз, другі. Пасля паклаў пярсцёнак у вялікі жалезны сейф, дастаў адтуль адзін новенькі даляр і даў мне ў рукі. Падзякаваў. З таго дня мяне перавялі да вышэйшага стала. Дзе і стаяў Сяльвестра. Гэта я яго рукі бачыла ўвесь час, калі падкідала яму ўверх адзежу, нават запомніла іх, не бачачы самога чалавека. Нож і ножніцы гаспадар перадаў яму, а я цяпер толькі выварочвала кішэні. А той вялікі залаты пярсцёнак і злучыў нас з Сяльвестрам наўсягды... Што было ўчора, пазаўчора, я ўжо не скажу. А тое, даўнейшае, помню... Як і Сяльвестру. Вось так мы і пазнаёміліся...

— А хто ў Сяльвестры з родзічаў яшчэ быў ці цяпер жыве ў Амерыцы? І у вас хто?

— У мяне нікога не было. Я адна паехала і вярнулася. А ў яго была сястра, Ефрасіння. Прузына — па-нашаму, павясковаму. У Кеваніі. Памёрла ўжо. Не помню добра, разам яны ехалі ў Амерыку, ці яна перш, а яго паклікала. Яна была за яго старэйшая. Мы там сустракаліся. У госці ездзілі адны да адных. Я нават адрас яе помню: 714, Мэйн стрыт, Кеванія, Ілінойс. Ці перапісваліся? Перапісваліся. 1 да трыццаць сёмага года, і пасля вайны, калі ўжо Сяльвестры не было. Яшчэ хто ў яго з родзічаў? Блізкіх? Брат Саверка. З'ехаў з дому, як і Сяльвестра. Сяльвестра ў Амерыку, а ён — у Сібір. Іх таксама было ў сям'і два браты і пяць сясцёр. І ў Сібіры Саверку таксама забралі ў трыццаць сёмым. І цяпер ні слуху, ні духу, хоць мы і пісалі. Хто сёстры? У Сяльвестры, апроч Прузыны, былі яшчэ чатыры сястры. Ганна ў Красным, Наста ў Грыневічах, Марыля тут, у Сушкаве, і Алімпіяда, па-вясковаму Улімка. Ганна і Наста памёрлі, Марыля падарвалася ў вайну на міне, а Улімка жыве ў нашым Задроздзі. Мы з ёй адны з усіх блізкіх засталіся. Дажываем і мы. Э-ха-ха...

— Доўга яшчэ будзеце жыць. Памяць у вас — дай бог... Успомніце... — ён паглядзеў у свае жаўтаватыя паперы, рассунутыя па стале, — 20-га кастрычніка трыццаць сёмага года, калі 14-ты пагранатрад праводзіў у вас у хаце вобыск... У вас, дакладней, у Сяльвестры, знайшлі медаль 1913-га года. Царскі.

— Знайшлі. Быў такі медаль. А чаго яго было куды выкідаць. Ляжаў і ўсё. Сяльвестру ім узнагародзілі, калі скончыў адзінаццацімесячныя курсы ротных фельчараў у пятнаццатым годзе ў Сімбірску і служыў у царскай арміі. А з васемнаццатага года да дваццаць першы ён служыў у РККА лекпомам. Дамоў і вярнуўся ў дваццаць першым годзе.

— Угу. А фашысцкі значок? Свастыку? Вы не пацвердзіце?

— Які фашысцкі значок... Смеху варта.

— А вы ведаеце свастыку?

— Ведаю. Нямецкую, з вайны, — яна падняла з калень руку і сагнула свае сухія старыя пальцы.

— Та-ак... — Ён зноў стаў перакладаць жоўтыя лісты на стале. — Пры вобыску знайшлі жоўтага колеру гузік, на якім была и-зо-бра-же-на, — ён прачытаў гэта слова па складах, — свастыка. І ляжаў той гузік разам з дзіцячымі лялькамі. У кашолцы. Было?

— Было. У чатырнаццатым годзе ў Амерыцы Сяльвестра выступаў на спаборніцтве. Дужаліся. І я была там. Сяльвестра і перамог некага. Паклаў на лапаткі. Той і даў яму гузік ад свайго пінжака на памяць. І Сяльвестра даваў нешта яму на памяць. Мы і прывезлі той гузік з Амерыкі. На ім была нейкая літара. Толькі не свастыка. Смеху варта. Той гузік забралі пры вобыску пагранічнікі...

— А вялікую амерыканскую хустку? Знайшлі пры вобыску?

— А што, дамоў з Амерыкі я павінна было голая ехаць? Я не толькі хустку прывезла...

— А чаму вы вярнуліся з Амерыкі?

— Скажу вам праўду. Я ўжо нічога не баюся. З Амерыкі сама я не вярнулася б. Нізашто... Але я выйшла замуж. А Сяльвестру праз год дамоў пацягнула. Толькі дамоў... Пацягнула на згуб галавы. Як чуў сваю пагібель і шукаў яе. Не паехалі б адтуль — дык і жылі б дагэтуль, як усе людзі. А што я павінна была рабіць? Кінуць Сяльвестру? Я за яго была на два гады старэйшая... Я і вярнулася разам з ім.

— Аляксандра Раманаўна... А ці чулі вы тады, да арышту Сяльвестры, штонебудзь пра антысавецкую паўстанцкую арганізацыю, якая была створана на тэрыторыі СССР разведкай адной прыгранічнай замежнай дзяржавы, у якой быў ваш муж, Сяльвестра, з 1934-га года і па заданні якой праводзіў арганізавана контррэвалюцыйную работу, займаўся шпіянажам, а таксама праводзіў дыверсійныя акты і падрыхтоўку да іх?

— Не. Не чула. Што, сам сазнаўся? У вас так і запісана? Сяльвестра? Сам? Бо-ожа мо-ой...

— А з начальнікам заставы "Жоўты бераг" Кашырыным Сяльвестра сустракаўся?

— Начальнік заставы Кашырын з Сяльвестрам у нас піў гарэлку. І самагонку. І не адзін раз. І не ён адзін. Начальства і тады піло, як і цяпер. Не саромелася...

— А ці прыходзіў да вашага мужа Каўзановіч з Крайска? А пра групу Жарскага не чулі?

— Не.

— І не ведалі ні аднаго, ні другога?

— Не.

— Ці паяўлялася ў вашага мужа ў 1936 годзе вялікая сума грошай, і ці ведама вам, дзе ён іх зарабіў?

— Не. Не паяўлялася. Грошы з мужам мы палучалі толькі з калгаса на працадні.

— Ці хадзіў ваш муж у 1936-м годзе за граніцу? У Польшчу. Ці насіў у Караліна і Жызнаву воўну і другую кантрабанду і ці прыносіў адтуль спірт, сахарын і падэшву?

— Не.

— Ці быў у маі 1936-га на калгаснай кармакухні пажар, калі муж быў даглядчыкам скаціны?

— Не.

— А ў свінарніку?

— Не. Пажараў у Задроздзі на ферме ніколі не было.

— А ці дохла на ферме ў 1936-м годзе скаціна?

— Скаціна дохне на любой ферме, у любы год. Як і людзі паміраюць у любой вёсцы ў любы час. Дазволу на гэта ў нас ніхто не пытаецца...

Ён змоўк, доўга сядзеў на крэсле, гледзячы на жоўтыя рассованы лісты паперы, пасля ёй, Аляксандрыне, у вочы, тады, як і ў пачатку, устаў і захадзіў па хаце, адной сваёй дарогай — ад стала да грубкі — і цёр рукі даланёй аб далано. І яна пачула, як і ў яе, лежачы на каленях, пачалі мярцвець рукі і па іх забегалі мурашкі — ад пальцаў да локцяў.

Пачуўшы, што сталі хадзіць па хаце, дзверы з прыхожай адчыніла Юстына. Нехта яшчэ прыехаў на допыт, але кагэбіст паказаў ёй аж дзвюма рукамі: заняты. Юстына ціха зачыніла дзверы, а ён спытаўся ў яе, Аляксандрыны, аж ад грубкі:

— Вы першыя ўступілі ў калгас?

— Першыя. Усё ён, Сяльвестра. Ён першы і ў Амерыку, першы і з Амерыкі. Першы і ў калгас, першага і ў варанок пацягнулі пагранічнікі.

— А за што арыштоўвалі Сяльвестру ў 1933-м годзе? Не помніце?

— Арыштоўвалі пагранатрадам на месяц. Ні ён, ні я не ведалі за што. Нават не падазравалі.

— А ў 1935-м годзе?

— У трыццаць пятым судзілі за тое, што згніла ў парніку бульба, трапіўшы пад мароз. Адседзеў тры месяцы. За пяць мяшкоў...

— Што вы хочаце, Аляксандра Раманаўна, дапоўніць да сваіх паказанняў? — спытаўся ён неяк адразу, сядаючы за сталом на крэсла.

— Дапоўніць? Больш нічога не хачу дапаўняць. А каб можна было дапоўніць — дапоўніла б... Што згнаілі маладымі ў зямлі і майго Сяльвестру і Савэрку... І ў нашай вёсцы па чалавеку лічы праз хату...

— Прачытайце і там, дзе пазначана: пратакол мною прачытаны —распішыцеся. Там, дзе стаіць: 26 снежня 1956-га года. Справа вашага мужа Сяльвестры будзе перагледжана. Вынікі паведамім.

— Чытаць я не буду. Няма ўжо чым. Няма вачэй... Палавіна выцвіла, а другую палавіну выплакала... Далёка яшчэ бачу, а чытаць — не магу.

Узяўшы здзервянелай рукой яго чорную вялікую самапіску, яна паставіла свае каракулі там, дзе ён паказаў пальцам. Як у калгаснай ведамасці, калі палучала на працадні. Больш яна ніколі нідзе не распісвалася. Не помніць.

Вялікая чорная ручка была халодная, як лёд, і яе ніяк не маглі сціснуць пакрэплыя ў цёплай хаце пальцы.

●

Яна ішла дамоў з Сушкава па занесеней снегам каляіне ад машыны. Снег раставаў на цёплых яшчэ пасля Юстынінай хаты шчоках і мяшаўся са слязьмі, халоднымі і салёнымі. Не так лёгка было ісці дамоў пад вецер. На горку да могілак яна пацюху ўзышла, а ісці ўніз да грэблі не магла: замяло каляіны і ад машын, і ад саней — снегу па калена, — і пачыналі мерзці ногі ў бурках з галошамі.

"Калі перад табой усягды заносіць дарогу пяском ці снегам, нялёгка табе па ёй ісці... Спатыкаешся..." — падумала яна пра сябе, захінаючы хусткай мокрыя шчокі ад вострага ветру і калючых дробных круп, што секлі без аддухі ў твар.

Ад маста яна пайшла наўскасяк аселіцай — па гурбах, але бліжэй у вуліцу.

Дома Волькі не было — не прыйшла яшчэ ад мяліцы. Карова ў хлеве маўчала — не рыкала і не біла рагамі ў сцяну, не адзываліся і парасяты, — значыць, Волька прыходзіла днём на палудзень; дагледзела.

Скінуўшы кажух на лаву ля акна, яна закруцілася была па хаце — у першай палавіне: ні стаць, ні прысесці, ні за што ўхапіцца...

Узяла вілачнік, адсунула на прыпечку засланку, дастала гаршчок з запіркай — і адразу пакінула.

"І лыжка будзе валіцца з рук... не толькі вілачнік..."

Хацелася некуды ісці і ісці, не сядзець бы толькі на месцы. У хаце — у другой палавіне — на яе натапырыліся калючыя аляісы ў гаршках. Са сцяны, здалося, высака, аж з-пад столі, на яе зірнулі з-за шкла з партрэта ў счарнелай рамцы Сяльвестра і яна сама — блiснулі халодным святлом ад белага снегу знадворку.

Яна доўга стаяла ў парозе і глядзела на партрэт. Партрэта ўжо даставаў знізу фікус у цёмным лісці і сваім верхам калоў яго знізу, як дзідай. Мінуў чорную круглую каробачку ад радыё, ходзікі і палез пад партрэт.

Хацелася пабегчы аж у Маладэчна да Аркадзі, да Алі. Пагаварыць з Перапёлкам — ён жа дырэктар фабрыкі і разумны чалавек. Да ўнукаў на край свету, толькі б не сядзець... Гэтулькі гадоў прайшло. Дваццаць, лічы, а ўсё — як учора...

Не супакоіла яе і Волька, з цямном прыйшоўшы з работы. Цэлую ноч яна не магла заснуць — расказвала і расказвала ўсё Вольцы...

А назаўтра раніцай зноў секлі дробныя крупы ў акно ад вуліцы і зноў стукаў дзюбкай у шыбіну ўчарашні гіль — варажыў на доўгія халады, — але яго не было відаць: за ноч замерзлі ўсе шыбы — і ад вуліцы, і ад двара.

*Заканчэнне будзе.*

ДАТЫ

# З любімымі не расставайцеся

***Чарада юбілеяў прайшла ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача: Пра тры з іх, на вялікі жаль, са спазненнем, мы распавядаем сёння на старонках "ЛіМа".***

Хвалюючай падзеяй стала **90-годдзе Юліі Феафілаўны ФЛЯЙТО**, прадстаўніцы першай кагорты акцёраў тэатра. Прыйшла яна ў ТЮГ ужо ў параўнальна сталым узросце, таму даводзілася іграць ролі мацярок, бабулек, сталых жанчын. І сёння, праз столькі год, успамінаецца маці — Клаўдзія Васільеўна Савіна ў спектаклі "У пошуках радасці" В. Розава, якую мякка і тактоўна сыграла Юлія Феафілаўна. Яна была такая клапатлівая, поўная любові, патрабавальная, стрыманая, так горача перажывала за ўсіх сваіх чатырох дзяцей. Дабрынёй, спагадай веяла ад яе Антаніны Шыдлоўскай у спектаклі "Над хвалямі Серабранкі" І. Козела. (Цудоўная была пара: Ю. Фляйто — У. Говар-Бандарэнка.) А якая прыкметная была яе сялянка Марыля ў спектаклі "Папараць-кветка" І. Козела! І хаця роля не з галоўных, але ўсе рэцэнзенты нязменна адзначалі яе, такая яна была натуральная, народная. Асабліва поўна раскрывалася яна ў сцэне вяселля, дзе была свацця. А яе добразычлівыя бабулі (мудрыя, якія ўсё разумеюць), цёткі... Ці пакладзістая, жадаючая ўсім дагадзіць Аграфена Кандрацьеўна ў спектаклі "Свае людзі — памяркуемся" А. Астроўскага. І разам з гэтымі ролямі — такія непадобныя характары, як хітраватая, гультаяватая Бабка ў "Казачным доміку" М. Стэгліка, вострыя гратэскавыя вобразы ў "Клапе" У. Маякоўскага — Разалія Паўлаўна Рэнесанс, Прадаўшчыца духоў, Першая госця і Старая, сыграныя ярка, кідка, сакавіта.

15 сакавіка ўсхваляваная Юлія Феафілаўна прымала віншаванні. За святочным сталом у яе гасцінным доме сабраліся родныя, блізкія, сябры, былыя калегі. У гонар юбіляркі гучалі тосты, пажаданні, віншаванні... Вельмі кранулі Юлію Феафілаўну віншавальныя вершык Артура Вольскага ад Тэатра юнага гледача:

*Жыццё падобна*
*на кірмаш:*
*Усё —*
*у бясконцай змене.*
*Гучаў, як флейта,*
*голас Ваш*
*На беларускай сцэне.*

*Гады...*
*Супынку ім няма.*
*Спрадвек нязменна гэта.*
*Ідзе за восенню зіма,*
*Але мы помнім лета.*

*І як бы веі ні гулі,*
*Нам не забыць ніколі,*
*Што Вамі створаны былі*
*Цудоўнейшыя ролі.*

*Ах, Юля!*
*Юлечка Фляйто!*
*У згодзе з Божай воляй*
*Жывіце сто, яшчэ раз — сто,*
*А, можа, нават болей!*

Былі і ўспаміны. Юлія Феафілаўна прыгадала, як працавала на радыё (чытала на польскай мове), у філармоніі, светлы 12-гадовы час работы ў ТЮГу. Успомніла, як выпадкова трапіла ў тэатр — прыйшла ў якасці партнёркі "падыграць" акцёру на паказе, ды так і засталася. Успаміналі з былымі калегамі (Л. Цімафеевай, Р. Маленчанкай, Л. Барташэвіч), як разам ігралі ў спектаклі "Мяккі характар" Л. Гераскінай.

Узрушаная віншаваннямі, Юлія Феафілаўна сваім моцным (да гэтага часу!) акцёрскім голасам прачытала па памяці два вершы — прызнанні ў каханні, напісаныя і прысвечаныя ёй Антонам Згіроўскім, яе былым мужам (Знакаміты вядучы акцёр Тэатра Галубка, ён у 1937 годзе разам з Уладзіславам Галубком быў рэпрэсіраваны, а Юлія Феафілаўна, якая таксама працавала актрысай у БДТ-3, засталася з двума маленькімі сынамі). Прачытала Юлія Феафілаўна і верш М. Багдановіча "Зорка Венера". Цудоўная, незабыўная сустрэча.

3 красавіка — юбілей **Людмілы Мікалаеўны БАРТАШЭВІЧ**. У 1960 годзе ў ТЮГу ішла немудрагелістая музычная камедыя пра каханне "Квартэт Алямбар" М. Віннікава. І была там такая цікаўная заздрослівая дзяўчынка Зойка, якая бегала за дарослымі закаханымі хлопцамі, падглядала, падслухвала. І вось яны (ролі выконвалі П. Дубашынскі, Б. Піскун, М. Пятроў) злавіўшы яе, падкідалі ўгору. Гэты ўзлёт аказаўся шчаслівым для маладой актрысы Люсі Барташэвіч. Яна сапраўды... узляцела!

Кім толькі ёй не даводзілася быць: і "Дзяўчынай з канапушкамі" (у п'есе А. Успенскага), і "Дамай-невідзімкай" (у камедыі П. Кальдэрона), і жонкай прафесара Паляжаева Марыяй Львоўнай ("Неспакойная старасць" Л. Рахманава), і жонкай Фучыка Густай ("Рэпартаж з пятлёй на шыі" О. Зяленкі)... І ўсё ж сапраўднае яе прызнанне — травесці. Непаўторная, непараўнальная травесці.

Шчырая, абаяльная, з заразлівым тэмпераментам, тонкім гумарам, колькі дзяўчатак, хлопчыкаў перайграла Л. Барташэвіч, колькі самых розных характараў стварыла больш як за 25 гадоў свайго сцэнічнага жыцця. Ці ж можна забыць яе палымяната Хлапчыша-Кібальчыша (у інсцэніроўцы паводле А. Гайдара), непасрэдную прывабную Маржэнку з "Казачнага доміка" М. Стэгліка, ці ўпершыню закаханую, парывістую, радасную, якая нібыта ўся свяцілася ад шчасця, і засмучоную падманам Зою Лезіну ("Усё гэта не так проста..." Г. Шмялёва), а яе грацыёзную, вытанчаную Мальвіну, нібыта ажыўшую з казкі ў "Прыгодах Бураціна" паводле А. Талстога (менавіта такой, здаецца, мы яе толькі і ўяўлялі), гарэзлівую неўтаймоўную Пэпі — Доўгуюпанчоху (у аднайменнай казцы паводле А. Ліндгрэн) ці "лёгкую, як паветра" дзяўчынку Гедру. ("Я спяшаюся за летам" В. Пальчынскайтэ) і шмат-шмат каго яшчэ. І па сённяшні дзень у дзіцячых пастаноўках на Беларускім радыё гучыць такі звонкі, празрысты голас Людмілы Барташэвіч.

24 мая — апошні ў гэтым сезоне юбілей: споўнілася 60 гадоў рэжысёру **Мікалаю Міхайлавічу ШЫЙКО**. Кожны, хто бывае ў Тэатры юнага гледача, яго добра ведаюць, а некаторыя, мабыць, і даўно. Знаёмства з ім адбылося яшчэ ў 1966 годзе на спектаклі "Прыгоды Бураціна". Казка, знаёмая з дзяцінства, была зроблена з такой фантазіяй, так вынаходліва, з такім азартам, гумарам, іроніяй, з такой акцёрскай зацікаўленасцю, што ствараласья ўражанне, быццам бачыш яе ўпершыню. Сапраўды, як і было абяцана на афішы тэатра: "Незвычайнае прадстаўленне для дзяцей ад 4-х да 70-і гадоў". Першая сустрэча аказалася ўдалай і знамянальнай. У 1972—74 гадах М. Шыйко ўзначальваў Тэатр юнага гледача.

Пачатак 70-х гадоў быў складаным перыядам у жыцці ТЮГа. Тэатр апынуўся без мастацкага кіраўніка. Трэба было неяк узрушыць калектыў, узняць над будзённасцю, абудзіць яго да сапраўднай творчасці, да высокага мастацтва. Горача ўлюбёны ў італьянскі тэатр масак (камедыя дэль артэ), у філасофскія казкі-фіябы К. Гоцы, Мікалай Міхайлавіч прапанаваў калектыву яго "Зялёную птушку". Сваёй адданасцю тэатру, страснасцю, шчодрасцю, нават апантанасцю ў рабоце, добразычлівасцю, сур'ёзным стаўленнем да ўсіх, хто быў далучаны да спектакля, М. Шыйко захапіў і калектыў. Працавалі самааддана, горача, з натхненнем. І атрымаўся светлы, радасны, бліскучы, захапляючы, гарэзлівы спектакль. Гэткае яркае святочнае прадстаўленне, дзе ўсё віравала, зіхацела яркімі маляўнічымі фарбамі, сапраўдны феерверк фарбаў, рухаў, імправізацыі, трукаў. Спектакль-вiдовiшча і разам з тым з глыбокай думкай, філасофскім зместам. Спектакль, як пісаў пра яго тады А. Бутакоў у "ЛіМе": "Паказаў, на што здольны калектыў, калі яго вядзе чалавек адораны і ўлюбёны".

Спектакль прымусіў загаварыць пра тэатр. Узняўся яго аўтарытэт. А ў самім тэатры, нарэшце, усталявалася сапраўдная творчая атмасфера. Але як падтрымаць цікавасць гледача да тэатра, як залучыць у яго моладзь? І М. Шыйко ставіць п'есу А. Валодзіна "З любімымі не расставайцеся". Гэта быў шчымлівы, тонкі і страсны спектакль-дыспут пра каханне. Сам Аляксандр Валодзін, які бачыў сваю п'есу ў многіх тэатрах краіны, у тым ліку Масквы і Ленінграда, быў уражаны, узрушаны спектаклем ТЮГа: захапляўся ўзроўнем рэжысуры, створанымі акцёрамі вобразамі, гучаннем беларускай мовы. На абмеркаванні спектакля ў тэатры 12 снежня 1972 года ён заявіў: "Створаны спектакль незвычайны і нараджаецца незвычайны тэатр". У маі 1973 года спектакль быў паказаны ў Рызе на Другім фестывалі маладзёжных тэатраў Прыбалтыкі і Беларусі і атрымаў самую высокую ацэнку.

Тым не менш шляхі тэатра і рэжысёра рызышліся (і не па віне М. Шыйко). "Зялёная птушка" і "З любімымі не расставайцеся" сталі ўжо легендай, а той час на пачатку 70-х гадоў сталі называць "залатым векам" тэатра. І вось праз 25 гадоў адбылася новая сустрэча з тэатрам, Мікалая Міхайлавіча запрасілі на пастаноўку.

Ізноў ажыў на сцэне ТЮГа К. Гоцы. На гэты раз — у "Шчаслівых жабраках". І на гэты раз з захапленнем працавала ўжо новае пакаленне акцёраў (да новай сустрэчы з рэжысёрам "дажылі" толькі М. Пятроў і Л. Улашчанка). Атрымаўся незвычайны для Тэатра юнага гледача спектакль. Прыгожае тэатральнае прадстаўленне, вясёлае, яркае, дасціпнае, дзёрзкае, гарэзлівае, ад якога атрымліваеш сапраўдную асалоду. У наша складанае будзённае жыццё ўварвалася чароўнае святочнае відовішча з музыкай, спевамі, інтэрмедыямі, жартамі, пластычнымі карункамі, танцавальнымі паклонамі. Стыхія радасці, свята, карнавальнай свабоды і весялосці захлынае і зачароўвае. І на вашых вачах адбываецца цуд — цуд нараджэння сапраўднага мастацтва. Калі вы хочаце адчуць радасць жыцця, адчуць святочную атмасферу вольнага карнавальнага жыцця, ідзіце на "Шчаслівых жабракоў". 22 мая гэтым, такім любімым, спектаклем тэатр і закрыў свой 42-і сезон.

Вось і сапраўды: "З любімымі не расставайцеся!"

**Д. УЛАДЗІМІРАВА**

МОВА

# "Каб ты тое з'еў..."

МЫ ЎКЛЮЧАЕМ радыё і дыктар паведамляе: "Зараз т р а н а ц ц а ц ь гадзін!" Вядучая тэлепраграмы вітае нас: "Дарагія с а б р ы!.." Той бедны заўзятар, які пераключыўся на футбол, чуе: "Нападаючы в ы б я ж а ў з-за спіны абаронцы і паспеў п р а с т р а л і ц ь уздоўж варот. Абаронца перакідвае мяч п р а з с а б е. Удар — с р э з к а!"

Мы слухаем і спажываем.

Мы маўчым.

Мы — гэта беларускія настаўнікі і навукоўцы, пісьменнікі і журналісты, мастакі і артысты, патрыёты і асветнікі...

Мы — свядомыя беларусы...

Мы слухаем і здзіўляемся: чаму ім не сорамна паведамляць у эфіры на ўсю краіну аб сваёй прафесійнай непрыгоднасці? Няўжо яны так пагарджаюць намі? Саромеюцца ж ва ўсім свеце дрэннага англійскага, нямецкага ды французскага вымаўлення! Саромеюцца ж беларусы ў рускамоўным асяроддзі (у тым жа нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы), уласнага акцэнту! Нават карэнныя жыхары Расіі, лёсам закінутыя на Беларусь, здараецца камплексуюць і просяць прабачэння за дрэнную беларускую.

Ну, дык то — беларусы, рускія ды немцы з французамі.

Сыны народаў.

Прадстаўнікі нацый.

Нашы тэле-радыё-"сабры" — нешта іншае. Яны маюць пэўнае нацыянальнае паходжанне, але няпэўны нацыянальны стан душы — так званы менталітэт. Ён у іх не тое, каб рускі і не тое, каб беларускі. Ні-ні. Яны неяк не адчуваюць сябе сынамі нацыі і, відаць, не без падстаў.

Яны сыны гарадоў.

Правільней за ўсё і было б вызначыць іх нацыянальна-этнічную прыналежнасць праз гарады, якія іх узгадавалі. Мінчане, віцябляне, гамяльчане... Нават не так.

"М і н ч я н е, б р э с т ч я н е, г а м е л ь ч я н е" — вось рода-племянныя прозвішчы вялікай арміі нашых суайчыннікаў, насельнікаў дашчэнту зрусіфікаваных беларускіх гарадоў.

Мне не падабаецца эмацыянальна-абразлівае айтматаўскае "манкурт". "Мінчянін" — наадварот, гучыць горда, хаця і абазначае амаль тое самае. "Мінчянін" — гэта светапогляд, філасофія і адпаведныя сацыяльна-культурныя паводзіны ў тутэйшым нацыянальна-этнічным асяроддзі. Гэта рэч у сабе. Ён ментальна супрацьпастаўлены і нацыянальна-заклапочанаму "мінчуку", і этнічна-інфантыльнаму палешуку.

Ён нараджаецца з пачуццём перавагі.

Ён — эліта.

Іншыя з іх маштабна замахваюцца на званне касмапаліта, але жыццёвыя рэаліі і рэгіянальны Бабруйска-Мінска-Маладзечанскі пачатак усё ж перамагаюць, і калі іх спытаць, яны, пацiснуўшы плячыма, паблажліва згаджаюцца лічыцца беларусамі.

Асабліва, калі, прынамсі, даводзіцца працаваць у сістэме беларускіх сродкаў інфармацыі.

Гэтае субэтнічнае ўтварэнне палохае не толькі нас, беларусаў. Не ў меншай ступені яго павінны жахацца рускія. Гэтая ракавая субкультурная пухліна шкодзіць рускай мове на беларускіх культурных прасторах не менш, чым беларускай. Яна асабліва небяспечная таму, што вельмі ўдала (на чужое вока) падрабляецца пад сапраўдны, натуральны моўна-культурны арганізм. (І рускі, і, як у нашым выпадку з радыё-тэлебачаннем, —. беларускі).

У жыццёвым побыце "рускамоўныя" беларусы быццам бы прадстаўляюць перад астатнім насельніцтвам рускую мову і культуру. Як у іх гэта атрымліваецца, лепш спытаць у расійцаў, ды я ўпэўнены, — нашы "рускамоўныя" неўсвядомлена дыскрэдытуюць у вачах беларусаў рускую нацыянальную культуру і рускую мову не "горш", чым беларускую.

Падсвядома-грэблівае стаўленне гэтых беларускіх грамадзян да беларускай мовы (у чым яны, бадай, не прызнаюцца нават сабе) нейкімі несправядлівымі шляхамі распаўсюджваецца і непрыкметна атручвае нават адносна экалагічна чыстае нацыянальна-культурнае асяроддзе, нават вёску.

Хаця — чаму несправядлівымі? Праз той жа радыё-тэлеэфір... Неяк малады радыёдыктар паведаміў, што "чакаецца да т а р ц а ц і градусаў марозу"! Гэта ён так разумее нашы лічэбнікі. Гэта ён, рускамоўны, думае, што дзесьці "прыкладна гэтак" мы гаворым.

Жах!

Вывелася нейкая новая тэле-радыёпапуляцыя вядучых.

Яны кажуць д а с а г н е н н е, п е д д э с я т і "яна мне вельмі с п а д а б а е ц ц а" (у сэнсе падабаецца).

У глыбіні душы яны ўпэўненыя, што беларускае маўленне — гэта скарабачанае рускае.

Сапраўды, папрасіце беларуса сказаць "тряпка" і вы пачуеце — "трапка", бяскрыўднае рускае слова "перетряхивать" адзін беларус перарабіў на такое двухсэнсоўнае, што расійскія артысты гумарыстычнага жанру дагэтуль не могуць супакоіцца.

Дык хіба можа існаваць у беларускім маўленні мілагучнае "сябры", нават калі пішацца праз "я"? "Дарагія с а б р ы!" — вось як трэба!

Па аналогіі з "трапкай"...

Такое адчуванне, нібыта нейкая антыбеларуская варожая армія рушыла разбураць мову з сярэдзіны. Прыслухайцеся. У вуснах многіх майстроў "эфірнага" слова наша мова груба парадзіруецца, фактычна высмейваецца. Але горш тое, што гэтыя "майстры" здольныя выклікаць да скалечанай імі мовы нянавісць і пагарду ў саміх беларусаў, асабліва ў маладых.

Нешта такое ўжо было ў недалёкім часе, калі беларусы масава незалюбілі беларускую радыёмову — афіцыйную мову камуністычнай прапаганды, зненавідзелі за абрыдлыя вушам і душам словазлучэнні тыпу "калгас імя...", "трэці год пяцігодкі", "сацыялістычнае спаборніцтва", "выканаць узятыя абавязацельствы" і розныя іншыя "перлы" чырвонай лексікі.

Тут дарэчы будзе сказаць, што свой уклад у справу кампраметавання і прыніжэння адной з багацейшых шматфункцыянальных еўрапейскіх моў традыцыйна рабілі і робяць нашы не самыя лепшыя, праўда, але досыць "узнёслыя" і "натхнёныя" паэты і паэткі.

Чамусьці асабліва паэткі.

Яны ўнушаюць думку, што беларуская мова існуе адно дзеля іх графаманскіх захапленняў "блакітам азёр", "пяшчотным каханнем", а таксама "сцяжынкамі дзяцінства" і ні на што больш важкае не здатная.

У вачах нервовага чытача з літаратурным густам такая "паэзія" можа зрабіцца "чырвонаю анучай", здольнай выклікаць сляпое шаленства, у тым ліку і супраць мовы, на якой гэтая "паэзія" ствараецца.

Неахайнае абыходжанне з беларускай мовай вынікае як заканамерны працяг яе традыцыйна-гістарычнага лёсу, які наканаваў ёй стагоддзямі выжываць і ратавацца, і марна сцвярджаць сваю вартасць сярод іншых моў, і быць гнанай. Сённяшняе афіцыйнае "двухмоўе", прынамсі, — адна з цынічных і па-езуіцку хітрых форм здзеку з яе.

Аднак не заўсёды благое — толькі благое. Дыялектыка, мусіць, у тым, што аб'ектыўна благое можа паслужыць і на карысць добрай справе.

З бясконцых спрэчак-стасункаў паміж беларускай і рускай мовамі на беларускай зямлі дагэтуль не ўзнікла амаль нічога прадуктыўна-карыснага дзеля абедзвюх моў. ("Вышэйшае" дасягненне моўнага руска-беларускага "сужыцця" — трасянка). Ці не ў гэтым яшчэ адзін доказ таго, што беларуская мова не ёсць нейкі заходні дыялект рускай, як схільныя думаць іншыя "велікаросы" ў Расіі, а мяркуючы па выніках дзейнасці, і нашы вышэйпамянёныя "новыя" тэлерадыёжурналісты.

Бо, як вядома, дыялекты ўзбагачаюць генеральную моўную плынь (літаратурную нармаваную), цудоўна ўпісваюцца ў яе, складаюць яе "абменны фонд", уплываюць на яе. Беларусізмы ж (як, прынамсі, і ўкраінізмы) засмечваюць рускую мову.

Тым жа русізмы "адказваюць" мове беларускай.

Праўда, поўнай сіметрыі тут не адбываецца, паколькі беларусізмы ў дзяржаўнай мове Расіі ўсяго толькі дробны мовазнаўчы феномен, а русізмы ў мове беларусаў даўно ўжо — стыхійнае бедства.

Мы апынуліся на вялікім моўным сметніку, і элементарная ахайнасць вымагае нашых дзеянняў супраць моўнага бруду.

Хаця б на радыё.

Але мы маўчым.

Прыгожае пісьменства, публіцыстыка, філалагічная навука заўсёды і ўсюды сталі на варце сапраўднасці і чысціні нацыянальнай культуры. Сродкам і мэтаю ў гэтай пачэснай справе служыла мова. Аднак калі для пішучай брацііі ашчаджэнне мовы было (і ёсць) справаю больш сумлення, дык у дзеячаў "маўленчага жанру" — радыё і тэлебачання — гэта прамы прафесійны абавязак. Яны павінны есці свой хлеб найперш з а р ф а э п і і (узорна-правільнага вымаўлення), а ўжо потым — са зместу таго, што прамаўляюць.

Такая спецыфіка.

Неяк у вясковай краме на Мазыршчыне (Бог яго ведае, чаго мяне туды лёс занёс?) я стаяў у чарзе і вымушана слухаў перадачу па радыёдынаміку, падвешаным на сцяне і чамусьці ўключаным прадаўшчыцай на ўсю моц. Раптам дыктар сказаў: "Зараз т р а н а ц ц а ц ь гадзін п е д д э с я т адна хвіліна. Дарагія с а б р ы, мы працягваем..."

— А каб ты тое з'еў, што сказаў! — усхапілася цётка спераду, народ у чарзе засмяяўся, загаманіў.

Ну, што ж... Народ яшчэ чуе, што і ЯК яму кажуць.

І нават рэагуе.

Толькі мы маўчым.

Мы — гэта настаўнікі, артысты, пісьменнікі, публіцысты, філолагі, асветнікі, патрыёты і розныя іншыя радыёслухачы і тэлегледачы Беларускага радыё і тэлебачання.

**Мікола ЗАХАРАНКА**

ПАМЯЦЬ

# Пісаў пра Леніна, перакладаў Коласа

Хто гэта, падумае чытач і пацісне плячыма: тых, хто ўслаўляў "правадыра сусветнага пралетарыяту" — сотні і тысячы. Многія на гэтым "зарабілі" кандыдацкія і доктарскія дысертацыі, з якіх кормяцца і сёння. Гэтаксама многія спрычыніліся і да перакладу твораў народнага песняра на рускую і іншыя мовы... Ды ў дадзеным выпадку гаворка ідзе пра чалавека адметнага, які стаў адным з першых, хто напісаў біяграфію Леніна. Высветліў гэта нястомны даследчык на ніве нацыянальнага Адраджэння Віталь Скалабан, дзякуючы якому вернуты з небыцця імёны многіх з тых, што варты памяці. Герой нашага аповеду Іван Баранкевіч, зразумела, не толькі за тое, што ўслаўляў Ільіча. Ды зрэшты ён не так і ўслаўляў яго, колькі стаў першым, хто паспрабаваў разабрацца ў жыцці і дзейнасці таго, хто на дзесяцігоддзі стаў ідалам для мільёнаў людзей...

Дык вось. У 1919 годзе ў Пецярбурзе з'явілася даволі аб'ёмная, асабліва па тым часе, кніга, на вокладцы якой стаяла "Н. Ленин". Крыху вышэй стаяла імя (відавочны псеўданім) аўтара: "Белорусс". Яшчэ вышэй, на самым краёчку вокладкі значылася: "Издание белорусского отдела комиссариата по делам национальностей". Кніга цікавая тым, што ў ёй ні разу не згадвалася імя Сталіна, а з паплечнікаў Леніна ўпаміналіся Мартаў, Зіноўеў і Троцкі, якога Беларус называў "дастойным саратнікам". А паколькі біяграфія пісалася, як кажуць, па гарачых слядах падзей, дык, вядома, аўтар не мог абысці гучную і па сённяшні дзень праблему "апламбіраванага вагона", матэрыялы пра які прасачыліся ў друк у 1917 годзе і засведчылі, што Ленін быў звязаны з германскай разведкай. Але Беларус знайшоў выйсце. Да згаданай праблемы ён не выказаў ніякага свайго стаўлення — ні адмоўнага, ні станоўчага, а ў дапамогу "паклікаў" Троцкага, які, у свой час знаходзячыся ў сталічнай турме "Крыжы", у пасланні "да таварышаў" 1 верасня 1917 года разнасіў следчага Часовага урада Аляксандрава, што вёў згаданую справу. Леў Давыдавіч таксама палемізаваў наконт паказанняў нейкага паручыка-шпіёна Ярмоленкі, які даводзіў, нібыта ён сустракаў Леніна ў германскім генеральным штабе. А вось наконт замаху на Леніна 30 жніўня 1918 года Беларус смела і аб'ектыўна пісаў: "Як гэта бывала неаднаразова ў гісторыі, замах на жыццё кіраўніка ўрада выклікаў толькі ўзмацненне рэпрэсій. Пачалося ўзмацненне прымянення чырвонага тэрору, распаўсюджванне інстытута заложніцтва, масавыя арышты і расстрэлы ўсіх, каго падазравалі ў контррэвалюцыйных замыслах. Энергічная дзейнасць надзвычайных камісій па барацьбе з контррэвалюцыяй, асабліва правінцыйных, якія шырока тлумачылі гэтае паняцце, выклікала ў партыйнай прэсе розныя адносіны".

Дык хто ж ён, гэты Беларус? В. Скалабан давёў, што яго сапраўднае прозвішча — Баранкевіч, Іван Міхайлавіч. Нарадзіўся ён 6 ліпеня 1888 года (110 гадоў назад) у вёсцы Трасцівец цяперашняга Быхаўскага раёна. У 1904—1905 гадах разам з братамі ўваходзіў у быхаўскую арганізацыю РСДРП, у 1918 жа годзе знаходзіўся ў партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Калі ж служыў у Іркуцку ў паветраплавальным батальёне (са студзеня 1910 года), быў членам ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі эсэраў. У першую сусветную вайну трапіў на фронт. З вайны вярнуўся з жонкай — прыгажуняй-немкай Эльфрыдай, выпускніцай Венскай кансерваторыі, таленавітай спявачкай і музыкантам. З 1918 года загадваў агітацыйна-выдавецкім пададдзелам Беларускага аддзела Камісарыята па справах нацыянальнасцяў Савета камун Паўночнай вобласці. Пецярбург і з'яўляўся галоўным выдаўцом беларускай друкаванай прадукцыі.

Баранкевіч быў чалавекам вялікіх, энцыклапедычных ведаў, валодаў выключнай памяццю. Па ўспамінах тых, хто яго добра ведаў, Іван Міхайлавіч, прачытаўшы які-небудзь артыкул у газеце, мог паўтарыць яго слова ў слова. Валодаў вялікім аратарскім майстэрствам, сам пісаў мастацкія творы, у 1927—1929 гадах уваходзіў у Ленінградзе ў літаратурную групу "Резец", друкаваўся ў аднайменным часопісе. Зацікавіўся перакладчыцкай дзейнасцю, і ў яго пераўвасабленні па-руску ў 1930 годзе ў Дзяржвыдаце РСФСР з'явілася аповесць Я. Коласа "На прасторах жыцця".

І гэта нягледзячы на тое, што ўвесь час па сутнасці знаходзіўся "пад каўпаком". Першы раз Баранкевіча арыштавалі ў 1923 годзе, затым у 1924. Арышт 1931-га закончыўся высылкай на спецпасяленне ў Самарканд, адкуль у сувязі з амністыяй вярнуўся праз два гады. Нарэшце, арышт 1939 года. Знаходзячыся ў Ленінградскай перасыльнай турме, аб'явіў галадоўку, якая доўжылася больш за месяц. Быў змешчаны ў псіхіятрычную бальніцу. У 1941 годзе Беларуса асудзілі на 8 гадоў і адправілі ў Карлаг, дзе ён і памёр 26 чэрвеня 1942 года. На магіле яго паставілі слупок з надпісам: "N 24 в".

Рэабілітаваны Баранкевіч быў толькі ў 1982 годзе — з-за недаказанасці віны.

**Васіль БЕРДНІК**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

прыёмная рэдакцыі — 2848-461

намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2331-985

АДДЗЕЛЫ:

публіцыстыкі — 2848-204

пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985

літаратурнага жыцця — 2848-462

крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985

паэзіі і прозы — 2848-204

музыкі — 2848-153

тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153

выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462

навін — 2848-462

мастацкага афармлення — 2848-204

фотакарэспандэнт — 2848-462

бухгалтэрыя — 2366-071





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3481
Нумар падпісаны ў друк 6.8.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 4706/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12